# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 31 (241) 6 — 12 жніўня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ

## РАРЫТЭТ АД КАМІТЭТА ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ

***На Беларусі з'явіўся рарытэт, датуемы 1702 годам — "Кніга жыцій святых" Дзмітрыя Растоўскага. Дзякуючы намаганням Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь яна папоўніла інтэлектуальную скарбонку нашай культуры.***
***25 ліпеня прайшла афіцыйная цырымонія перадачы рарытэта ў фонды Нацыянальнай бібліятэкі...***



**Старшыня Камітэта дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь Уладзімір МАЦКЕВІЧ:**

— Мы вырашаем цэлы шэраг комплексных праграм не толькі разведвальнага характару. Выконваем і такую функцыю, як вяртанне на радзіму гістарычных культурных каштоўнасцей, якія трапілі за мяжу па звычайных абставінах, вайсковых ці, дапусцім, злачынных. А таксама не дапускаем іх вывазу кантрабандным шляхам. Мы ўсяляк стараемся ўдзельнічаць у добрых місіях. У прыватнасці, у 1993 годзе мне давялося перадаваць шэраг матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці аднаго з паплечнікаў Янкі Купалы, якія мы выявілі ў сваім архіве... Мы перадалі іх музею Янкі Купалы. У 1995 годзе брэсцкі абласны музей атрымаў прадметы выяўленчага мастацтва вялікай каштоўнасці... І вось сёння інтэлектуальнай скарбонцы нашай рэспублікі, а менавіта гэтакай я лічу Нацыянальную бібліятэку, перададзена "Кніга жыцій святых" Дзмітрыя Растоўскага... Рэч вельмі рэдкая, надрукаваная ў 1702 годзе беларускім друкаром Максімам Вашчанкам. Вядома, што ў свеце на сённяшні дзень існуе сем такіх кніг. У Беларусі не было ніводнага экземпляра. І вось! Нам удалося, выкарыстаўшы магчымасці службы разведкі, вярнуць гэты экземпляр у рэспубліку. Лічу, што ён павінен стаць тым экспанатам, які будзе жыць на дабро нашага народа...

На мой погляд, выспела неабходнасць стварыць пры Кабінеце Міністраў камісію, якая б займалася вяртаннем гістарычных каштоўнасцей на сваю радзіму. Наша праца на гэтым не спыняецца, мы працуем у гэтым накірунку... Вялікую надзею ўскладаем на нашых магілёўскіх таварышаў, якія ўжо некалькі год шукаюць крыж Еўфрасінні Полацкай. Літаральна на днях нашы брэсцкія калегі не дапусцілі вывазу праз заходнія межы нашай радзімы сарака пяці старажытных абразоў...

— Уладзімір Аляксандравіч, як жа ўдалося атрымаць кнігу?..

— Спецыфіка разведкі, яе магчымасці не дазваляюць распавядаць перадгісторыю ці тэхналогію здабычы гэтага рарытэта...

— Кніга правяралася дазіметрам?

— Яна прайшла адпаведны дазіметрычны кантроль. Але яна не мае ніякага дачынення да чарнобыльскай зоны. Кніга прывезена з-за мяжы.

— Уладзімір Аляксандравіч, чаму вы вырашылі зрабіць гэткі падарунак Нацыянальнай бібліятэцы? Ды, скажам, не царкве?

— Мы палічылі, што кніга з'яўляецца набыткам усяго народа, а не толькі тых, хто верыць у Бога. Тым больш, што мы маглі б пакрыўдзіць каталіцкую частку нашага насельніцтва.



**Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр САСНОЎСКІ:**

— Хачу выказаць шчырую падзяку супрацоўнікам Камітэта дзяржбяспекі за тое вялікае свята, якое яны зрабілі для работнікаў культуры. Кніга гэта — вялікі набытак для нашай рэспублікі, для гісторыі нашай нацыянальнай спадчыны...

Я выкажу агульнае пажаданне, каб разведка Камітэта дзяржаўнай бяспекі працавала яшчэ лепей і мы атрымлівалі больш такіх падарункаў.



**Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Галіна АЛЕЙНІК.**

— Галіна Мікалаеўна, які будзе доступ да падараванага рарытэта?

— У першую чаргу даследчыкам. Але даюцца гэткія магчымасці і студэнтам. Яны, дарэчы, зараз вельмі часта атрымліваюць доступ да старажытнай літаратуры... Прыходзяць да нас з накіраваннем ад дэканата і працуюць. Наогул кніга агульнадаступная.

— Вам штосьці яшчэ падарылі?

— Так. Сёння акрамя галоўнага падарунка мы атрымалі яшчэ некалькі кніг. Мы іх самі знайшлі ў архівах КДБ — для нашых фондаў яны ўяўляюць вялікую цікавасць...



**Загадчыца аддзела рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Таццяна ПРОШЫНА:**

— Таццяна Іванаўна, распавядзіце, калі ласка, аб кнігах, якія вы сёння атрымалі... Я маю на ўвазе тыя, якія вы самі знайшлі ў архіве...

— Мяне запрашалі ў КДБ, і там я адшукала гэтыя кнігі... Частка з іх — выданні часоў акупацыі. Напрыклад, "Беларускі народны каляндар". Газеты часоў вайны. Яны выдаваліся на тэрыторыі акупаванай Беларусі, цяпер з'яўляюцца вельмі рэдкімі. Таму ўяўляюць вялікую гістарычную каштоўнасць як сведкі тых часоў...

— Калі апошні раз паступалі старажытныя кнігі?

— Іх мы атрымліваем кожны месяц. Звычайна прыходзіцца набываць... Альтруістаў зараз мала, дораць кнігі вельмі рэдка. І таму мы вельмі ўдзячныя за падарунак.

— Якія выданні вы набывалі апошні раз?

— Беларускія віленскія выданні XVII стагоддзя на латыні, на польскай мове. Кірылічныя выданні XVIII стагоддзя. Англійскія выданні XVII стагоддзя. Італьянскае выданне XVI стагоддзя.

— Хто звычайна прадае кнігі?

— Мы набывалі ў прыватных асоб. Праз букіністычныя крамы. Бываюць маленькія кніжачкі XVIII стагоддзя... у дрэнным стане ад 30 да 300-400 даляраў. Не даражэй.

— А як з грашыма?

— Вельмі дрэнна. Напрыклад, падораны рарытэт мы б не набылі. Не здолелі б...

**P.S.** *Вось гэткае свята скрозь слёзы. Грошай на культуру катастрафічна нестае... І слава Богу, што ёсць у нас людзі, якія шануюць літаратуру, жывапіс, тэатр, кіно...*

**Зміцер ВОЛКАЎ**





# НАТАТНІК ТЫДНЯ

## СВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ



27 ліпеня, у Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь, у Мінску адбыўся мітынг, арганізаваны трыма палітычнымі партыямі.

*На здымках: падчас мітынгу; выступае ансамбль Беларускага саюза фальклярыстаў.*

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**



Адкрыццё помніка воінам-афганцам адбылося 3 жніўня ў Мінску. На цырымоніі выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. У ёй таксама ўзялі ўдзел дзяржаўныя і палітычныя дзеячы краіны, сваякі воінаў, якія загінулі ў Афганістане, госці з замежжа.

*На здымках: падчас адкрыцця помніка.*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**






Выстава "Фуджы Прэс-фота-95" адкрылася ў Нацыянальнай мастацкай галерэі. На ёй прадстаўлены лепшыя рэпартажныя творы вядучых фатографаў свету з Італіі і Партугаліі, Швецыі і Германіі, Бельгіі і Англіі, многіх іншых краін. Яны зрабілі свае рэпартажы ў гарачых кропках планеты. Мовай фатаграфіі рэпарцёры распавялі пра падзеі ў Югаславіі, Чачні, Анголе і Палесціне. Прыродныя катаклізмы і катастрофы, спорт, нацыянальныя традыцыі і чалавек у самых нечаканых сітуацыях — усё гэта ў фотатворах, што прадстаўлены гледачам фірмай "Белэксфільм".

*На здымку: Стэфанэ Кампаінт (Францыя). "Арктыка".*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

## АСЦЯРОЖНА — ЛЕТА!

Надышла сярэдзіна лета — час адпачынкаў і канікул, калі ўсе імкнуцца як мага часцей выязджаць з горада на прыроду. У гэты час узрастае небяспека пажараў у лясах і на адкрытых тэрыторыях горада. Неабходна зберагчы горад і ягоныя ваколіцы ад агню. Ці знаходзіцеся вы дома, на працы, адпачываеце на прыродзе, памятайце: неасцярожнае абыходжанне з адкрытым агнём можа стаць прычынай велізарных матэрыяльных страт і часам —смерці людзей.

Улетку дзеці часта застаюцца без нагляду дарослых. Іхнія гульні бываюць вельмі небяспечнымі, асабліва калі ў руках дзяцей знаходзяцца запалкі. Не дазваляйце вашым дзецям гуляць з пажаранебяспечнымі матэрыяламі і рэчывамі. Калі вы даведаліся, што дзесьці побач дзеці расклалі вогнішча, гуляюць з запалкамі, небяспечнымі рэчывамі, не праходзьце міма. Магчыма, ад вашых дзеянняў залежыць іхняе здароўе і нават жыцці. Звяртайце на дзяцей падчас канікулаў асаблівую ўвагу, распавядайце ім пра небяспеку пажараў і пра элементарныя дзеянні ў выпадку іх узнікнення.

Калі вы знаходзіцеся за горадам, у лесе, памятайце: вакол — сухая трава, абляцелае лісце і галлё. Кінуты недапалак альбо цыгарэта, непагашанае вогнішча можа ператварыць многія гектары лясоў, палёў у пустэльню. Цяжка ўявіць, у якім жудасным становішчы знаходзяцца людзі ў населеных пунктах, абкружаных палаючымі лесамі і палямі. Яшчэ не сцёрлася ў памяці вогненнае лета 1992 года, калі Мінск папросту "задыхаўся" ад дыму і попелу.

**А.МІНІЧ, інспектар ваенізаванай пажарнай часткі № 6 Цэнтральнага раёна горада Мінска.**

## ЖАНЧЫНА І ПРЫРОДА

Пад такою назвай у кінатэатры "Гродна" ў горадзе над Нёманам дэманструецца фотавыстава твораў Юрыя Слабажаніна, наладжаная Гродзенскім фотаклубам "МИГ".

У экспазіцыю выставы ўвайшлі 50 фотаработ самабытнага беларускага фотамастака, які трагічна загінуў падчас фотаздымак улетку 1995 года.

Галоўная тэма выставы — Жанчына і Прырода. А выстава прысвечана Міжнароднаму дню сям'і, што адзначаецца ў траўні.

Пасля ўрачыстага адкрыцця, дзе сабраліся вядучыя фотааматары і фотамастакі Гродна, прысутныя былі запрошаны на міні-канцэрт, падрыхтаваны выхаванцамі Гродзенскай музычнай вучэльні.

А напрыканцы, на прэс-канферэнцыі старшыня фотаклуба "МИГ" Віталь Нікановіч паведаміў прысутным, што Гродзенскі маладзёжны фотаклуб "МИГ" імя Юрыя Слабажаніна нядаўна быў афіцыйна зарэгістраваны ва ўпраўленні юстыцыі Гродзенскага аблвыканкама, і яму быў нададзены статус абласнога грамадскага аб'яднання.

Тым самым былыя вучні Юрыя Слабажаніна ўвекавечылі памяць свайго Настаўніка. Дарэчы, фотаклуб "МИГ" рады новым сябрам. Ягоныя каардынаты: 230023, г.Гродна, вул.Ажэшка, 19. Тэлефон: (12522) 5084-56.

**Аляксандр ГОРНАЎ, Маладзёжны прэс-клуб.**

***Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з нагоды смерці народнага артыста Беларусі, выдатнага кампазітара і грамадскага дзеяча, прафесара Беларускай акадэміі музыкі Уладзіміра Уладзіміравіча АЛОЎНІКАВА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.***

Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнку

Зварот дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — членаў Пастаяннай камісіі па адукацыі, навуцы і культуры

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч!

У нашай дэпутацкай Камісіі, якая займаецца заканатворчай дзейнасцю ў сферах адукацыі, навукі і культуры, высока ацэнена Вашае стаўленне, як главы дзяржавы, да самых масавых установаў культуры — бібліятэк усіх узроўняў, іх ролі ў паўсядзённым жыцці нашага грамадства. Выступаючы на рэспубліканскай нарадзе 20 чэрвеня 1996 года, прысвечанай стану спраў у сацыяльна-культурнай сферы, Вы, шаноўны Прэзідэнт, слушна адзначылі, што ўсе бібліятэкі, пачынаючы з Нацыянальнай і заканчваючы гарадскімі і сельскімі, павінны стаць "асноўнай матэрыяльнай базай для правядзення інфармацыйна-аналітычнай працы і ўмацавання сувязей органаў дзяржаўнага кіравання з грамадскасцю ў сучасных умовах".

Разам з тым, як паказаў падрабязны аналіз працэсу выканання дзейнага заканадаўства ў галіне бібліятэчнай справы ў рэспубліцы на нядаўнім пашыраным пасяджэнні нашай Камісіі з удзелам кіраўнікоў Нацыянальнай бібліятэкі і іншых вядучых рэспубліканскіх навуковых і навукова-тэхнічных бібліятэк, становішча ў гэтай важнай галіне культуры застаецца вельмі крытычным і складаным. Дасюль, нягледзячы на вызначаны Законам "Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь" і Вамі асабіста як Прэзідэнтам, канкрэтны тэрмін выканання ягоных найважнейшых патрабаванняў (снежань 1995 г.), рашэнні ўрада рэспублікі яшчэ і сёння не цалкам адпавядаюць вышэйзгаданаму заканадаўчаму акту.

Кабінетам Міністраў і Міністэрствам культуры марудна і не ў поўнай ступені распрацоўваюцца ў адпаведнасці з Законам аб бібліятэчнай справе новыя нарматыўныя і інструктыўныя акты, якія б стымулявалі працэс ягонага далейшага развіцця і ўдасканальвання бібліятэк, умацоўвалі б фінансавую і іншую матэрыяльную дапамогу ў аўтаматызацыі і камп'ютэрызацыі гэтых установаў культуры, ільготным падаткаабкладанні, умацаванні іхняй матэрыяльнай базы, у забеспячэнні

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! На старонках вашай газеты хацелася б змясціць свае погляды на становішча вясковай бібліятэкі сёння, пачуць водгукі калег і вышэйшага кіраўніцтва.

Большасць вясковых бібліятэкараў — гэта самыя звычайныя людзі, але прафесійныя патрабаванні да іх ставяцца такім чынам, што, па меншай меры, загадчык вясковай бібліятэкі павінен быць нястомным, унікальным, думаючым 24 гадзіны ў суткі пра сваю справу чалавекам, ігнаруючы цяжкаспалучальнасць сваіх функцый.

Энтузіясты ў нашай справе яшчэ не перавяліся, але ніколі яшчэ не сустракаўся мне спецыяліст, які б пасляхова спраўляўся з усімі сваімі абавязкамі. Гэта проста немагчыма і пры вялікім жаданні.

Калі бібліятэкар прытрымліваецца дакладнасці і бездакорнасці ў "паперах" — дзённіку, фармулярах, планах, справаздачах, актах і г.д. — на гэтым ён поўнасцю "выкладваецца". На так званую "масавую" бібліяграфічную краязнаўчую работу нестае часу і сіл, а чалавеку творчаму цяжар канцылярскіх спраў нецікавы і непасільны.

У сувязі з гэтым хочацца выказаць наступную думку. У штаце вясковай бібліятэкі павінна працаваць 2 чалавекі з тым аб'ёмам работы, які ўскладаецца сёння на плечы аднаго.

Для бібліятэкі існуе ПЛАН на чытача — самая галоўная лічба, ад якой залежыць памер зарплаты — стаўка альбо 0,5 стаўкі.

Планавая лічба вызначана "наверсе". 450 чытачоў стаўка. Сёлета 22 бібліятэкі нашага раёна перавялі на 0,5 стаўкі. Увявім сабе, што можа зрабіць бібліятэкар за 4 працоўныя гадзіны: расстаўляць кнігі вернутыя чытачамі, правесці падлікі і запісы ў дзённік, прагледзець газеты і часопісы, падшыць іх, расстаўляць чытацкія фармуляры, прыняць некалькі наведнікаў.

Хочацца напомніць, што абслугоўванне вясковых чытачоў істотна адрозніваецца ад абслугоўвання наведнікаў навуковай бібліятэкі. Канкрэтныя чытацкія патрабаванні тут вельмі нешматлікія. Большасць тэматычных,

СІТУАЦЫЯ

# ДЭПУТАТЫ ПІШУЦЬ ПРЭЗІДЭНТУ...

## ПАСТАНОВА
## Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры ад 28 чэрвеня 1996 г.

новымі паасобнікамі кніг і іншай літаратуры, былі б своеасаблівым шчытом па перапыненні разгорнутай у рэспубліцы кампаніі па непрадуманай рэарганізацыі і закрыцці патрэбных усіх нам устаноў культуры.

У асабліва цяжкім крызісе апынуўся гонар нашай культуры, вядомы ў народзе пад імем "Ленінка", галоўная бібліятэка нашай рэспублікі — Нацыянальная бібліятэка. Справа дайшла да таго, што глыбіня праблем, што склаліся тут, ужо практычна не вырашальная без Вашага, Аляксандр Рыгоравіч, асабістага ўдзелу. Двойчы, у лістападзе 1988 г. (Пастанова Савета Міністраў ад 29 лістапада 1988 г., № 346) і ў снежні 1990 г. (Пастанова СМ ад 25 снежня 1990 г., № 331) нашым урадам прымаліся меры, каб выйсці з вастрыні праблемы, але калі справа даходзіла да фінансавання, усё на гэтым спынялася, а будаўніцтва новага комплексу Нацыянальнай бібліятэкі краіны так дасюль і не пачалося.

Справа абцяржарваецца тым, што Нацыянальная бібліятэка (яе галоўны корпус), якая пабудавана і пачала дзейнічаць у далёкім, 1922 годзе, пачынаючы з 1932 года ніводнага разу капітальна не рамантавалася, хаця яе кніжны фонд сёння пераваліў ужо праз сямімільённую мяжу (у момант адкрыцця бібліятэка мела толькі 30 тысяч паасобнікаў).

Надзвычай узраслі роля і функцыі гэтай вядучай установы культуры, дзе размешчаны навуковы і каардынацыйны цэнтр для ўсіх бібліятэк нашай Радзімы ў галіне бібліятэка- і бібліяграфазнаўства і кнігазнаўства. Тут распрацоўваюцца праграмы развіцця бібліятэчнай справы, праекты найважнейшых дакументаў, у тым ліку і прававога зместу, здзяйсняецца значная бібліяграфічная і выдавецкая дзейнасць.

Пра маштабы папулярнасці Нацыянальнай бібліятэкі сведчыць колькасць яе наведнікаў, што павялічваецца год ад году. Яна перавысіла ўжо паўмільёна чалавек, а агульная кнігавыдача складае больш за 3 мільёны паасобнікаў на год. У ліку партнёраў бібліятэкі ў галіне міжнароднага кнігаабмену — больш за 280 устаноў і арганізацый з трыццаці шасці краін свету.

Найважнейшая асаблівасць Нацыянальнай бібліятэкі — яе унікальнасць. Яна — адзіная на Беларусі не толькі па маштабах сваёй дзейнасці, велічыні і паўнаце фондаў, але і па разнастайнасці носьбітаў інфармацыі ад традыцыйных папяровых да аўдыёвізуальных і электронных. Значэнне яе перш за ўсё ў тым, што гэтая бібліятэка (як і ўсе нацыянальныя бібліятэкі ў свеце) створана і існуе для патрэб беларускага народа, для ўсёй навукі і культуры. Нават наяўнасць буйных галіновых бібліятэк ні ў якай ступені не прыніжае унікальнасць Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, бо нават простае зліццё фондаў гэтых бібліятэк не ў стане замяніць яе як дзяржаўны універсальны інфармацыйны банк.

З кожным годам у Нацыянальнай бібліятэцы павялічваецца інтэнсіўнасць працоўнага рытму, што таксама унікальна. Толькі штодня галоўную бібліятэку наведваюць каля трох тысяч наведнікаў, якім выдаецца больш за 11 тысяч паасобнікаў літаратуры. А гэта ў сваю чаргу — складаны працэс зносінаў з чытачамі, бібліяграфічнага пошуку іх патрэб і перадачы іх у шматлікія, тэрытарыяльна раскіданыя па горадзе кнігасховішчы, дастаўка выданняў чытачу, кантроль за захаваннем фондаў.

Акрамя вялікай колькасці чытачоў, справа ўскладняецца яшчэ і тым, што ў вядучай бібліятэцы рэспублікі адсутнічае механізацыя, што непазбежна прыводзіць да каласальных фізічных перагрузак супрацоўнікаў, павелічэння захворванняў, якія не былі раней уласцівыя прафесіі бібліятэкара. Таму надышоў той крытычны час, калі трэба радыкальна і раз і назаўжды заняцца стварэннем умоў працы Нацыянальнай бібліятэкі як для чытачоў, так і для яе супрацоўнікаў, у першую чаргу па забеспячэнні захаванасці фондаў.

Пастаянную трывогу не толькі ў кіраўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі і Міністэрства культуры, але і ўва ўсіх нас выклікае аварыйны стан асноўных будынкаў бібліятэкі. З кожным годам тут узрастаюць выпадкі прарываў сістэм водазабеспячэння і каналізацыі, якія не разлічаны на сучасныя нагрузкі, а таксама выпадкі выйсця са строю сістэмы электразабеспячэння. У кнігасховішчах, пабудаваных па старых праектах, у шмат разоў перавышаны нагрузкі на квадратны метр у параўнанні з дапушчальнымі тэхнічнымі нарматывамі. Старая канструкцыя будынкаў да таго ж не дазваляе ўводзіць сродкі механізацыі.

Усё вышэйзгаданае прыводзіць да галоўнай высновы — востра паўстала неабходнасць будаўніцтва ў нашай рэспубліцы новага комплексу Нацыянальнай бібліятэкі, эскізны праект якога закончаны яшчэ ў 1993 годзе.

З мэтай радыкальнага выпраўлення становішча, якое склалася ў сферы бібліятэчнай справы і яе ўсебаковай дзяржаўнай падтрымкі, Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і культуры, звяртаючы ўвагу на настойлівыя просьбы Міністэрства культуры, Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі, супрацоўнікаў найбуйнейшых рэспубліканскіх навуковых, навукова-тэхнічных і іншых галіновых бібліятэк, усёй бібліятэчнай грамадскасці, звяртаецца да Вас, паважаны Прэзідэнт, з наступнымі прапановамі:

1. З мэтай вырашэння вузлавых праблем у бібліятэчнай справе рэспублікі было б своечасовым і неабходным, каб Вы, Аляксандр Рыгоравіч, як Глава Дзяржавы, узялі пад сваю прэзідэнцкую апеку Нацыянальную бібліятэку Беларусі для таго, каб не толькі выратаваць галоўнае духоўнае багацце краіны, але і памножыць захаванасць і веліч гісторыка-культурнай спадчыны беларускага народа.

На наш погляд, было б мэтазгодным, паводле Вашага падыходу да ператварэння Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь (Загад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 216 ад 19 чэрвеня 1996 г.), прыняць спецыяльны Загад Прэзідэнта, згодна з якім было б праведзена аб'яднанне двух калектываў, якія дубліруюць адзін аднаго ў рабоце, — Кніжнай палаты Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь на базе апошняй, ператварыўшы іх у адзіны культурна-асветніцкі калектыў пад назвай "Нацыянальная бібліятэка Беларусі", што дазволіла б умацаваць матэрыяльную базу і кадры Галоўнай бібліятэкі краіны, прыпыніць дубліраванне ў дзейнасці двух блізкіх па напрамку дзейнасці калектываў і тым самым дало б новы стымул у працы па павелічэнні духоўнага багацця народа і захаванні нацыянальнай і іншай культурнай спадчыны.

2. Улічваючы аварыйнасць унікальных пабудоў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі як помніка архітэктуры XX стагоддзя і пастанову пажарной аховы аб тэрміновым выкананні неадкладных электрамантажных работ у яе памяшканнях, вывучыць магчымасць знайсці і выдаткаваць з рэспубліканскага бюджэту і Фонду Прэзідэнта ў 1996 — 1997 гадах, паэтапна, фінансавыя асігнаванні ў памеры 28 млрд. рублёў на капітальны рамонт двух яе карпусоў, якія размешчаны па вуліцах Чырвонаармейскай і Кірава, у адпаведнасці з зацверджаным каштарысам рамонту, з іх —700 млн. рублёў у бягучым годзе на рамонт тэхнічнай залы першага корпуса, рамонт даху, на афарбоўку фасадаў, выкананне электрамантажных работ і 700 млн.рублёў — на набыццё новага абсталявання для тэхнічнага і праграмнага забеспячэння, далейшага развіцця камп'ютэрызацыі і аўтаматызацыі бібліятэкі. Зрабіць фінансаванне гэтай праграмы адным з прыярытэтных накірункаў у культуры.

Пры немагчымасці выдаткавання адзначаных фінансавых асігнаванняў на капітальны рамонт Нацыянальнай бібліятэкі — даследаваць рашэнне іншага варыянта: будаўніцтва яе новага будынка згодна з зацверджаным праектам і выдаткаваннем бюджэтных капітальных укладанняў, пачынаючы з 1997 года.

3. Даручыць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь да канца бягучага года скончыць прывядзенне рашэнняў урада ў адпаведнасць з патрабаваннямі асобных артыкулаў Закону Рэспублікі Беларусь "Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь" (у першую чаргу артыкулы 9, 27, 28, 30, 31), тэрміны выканання якіх скончыліся яшчэ ў снежні 1995 года.

Патрабаваць ад кіраўнікоў выканаўчых і распарадчых органаў у трэцім квартале бягучага года на пасяджэннях абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў прааналізаваць выкананне вышэйзгаданага Закону і аказаць неабходную дапамогу органам кіравання культурай, бібліятэкам усіх узроўняў, цэнтральным бібліятэчным сістэмам (ЦБС), каб знайсці і выдзеліць дадатковыя фінансавыя сродкі, накіраваўшы іх на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы гэтых устаноў культуры, на набыццё новага абсталявання, папаўненне літаратурай, на камп'ютэрызацыю, падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў.

Глыбокапаважаны Прэзідэнт!

Мы, дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія з'яўляюцца членамі Камісіі па адукацыі, навуцы і культуры, звяртаючыся да Вас з усімі гэтымі складанымі пытаннямі, перадусім зыходзім з выключнага становішча, якое займае ў нашым грамадстве Нацыянальная бібліятэка, з глабальнасці вырашаемых ёю задач па далейшым развіцці і ўдасканаленні бібліятэчнай справы ў рэспубліцы. Цяжар гэты важкі, але высакародны. Таму верым і спадзяемся на Вашу поўную падтрымку гэтай вялікай дзяржаўнай справы, на ўзаемаразуменне і станоўчае вырашэнне закранутых у нашым Звароце пытанняў.

# А БІБЛІЯТЭКАРЫ — У РЭДАКЦЫЮ...

патрабуючых пошуку, часам патрабаванні неакрэсленыя — па тыпу: "хачу тое, не ведаю што", ці просяць зусім не тое, што на самой справе ім патрэбна.

І ў залежнасці ад узросту (ад 5 — 6 гадоў да пенсіянераў), узроўню адукацыі, асабістага і чытацкага густу, мы прапаноўваем тое, чым багаты сціплы фонд вясковай бібліятэкі.

А калі рыхтаваць выставы, агляды, рэдагаваць каталогі, папаўняць картатэкі, рыхтаваць і праводзіць масавыя мерапрыемствы? З аднаго боку, бібліятэку не закрылі, захавалі, з іншага — гэта не бібліятэка. Пункт абмену кніг. Альбо яшчэ даўмеліся дзе-небудзь аб'яднаць клуб з бібліятэкай —адрадзіць недзеяздольную "избу-читальню". Нават не смешна, але хоць зарплату некаму захавалі, і тое добра. А бібліятэкару, каб захаваць "стаўку", рэкамендаваны падворныя абходы. Яны вельмі актуальныя былі ў 20 — 30-я гады. У пагоні за планавай лічбай бібліятэкар павінен стаць вярблюдам, цягаючы торбы з кніжкамі ад хаты да хаты. Кнігі, занесеныя такім чынам у хату, самастойна ў бібліятэку не вернуцца. За імі трэба ісці, і добра, калі іх знойдуць і аддадуць з першага візіту. Бывае, што пошукі "прачытанага" працягваюцца і ў хатах бліжэйшых суседзяў і суродзічаў. Здараецца, што паведамляюць: "да свята чысцілі хату і вашыя кніжкі вынеслі на гару, прыходзьце заўтра, знойдзем", альбо і "жонка ў печы спаліла", "цёця з сабой звезла". Навошта кідацца фондам і без таго бедным, угаворваць, замаўляць як Кашпіроўскі, тых, хто не адчувае патрэбы ў бібліятэчным абслугоўванні? Прасцей, выходзіць, напісаць "лічбу": будуць цэлыя авечкі і сытыя ваўкі. А кнігі і час, якія губляюцца марна, можна скарыстаць на патрэбу сапраўднаму чытачу, а не ўяўна.

У зону абслугоўвання вясковай бібліятэкі звычайна ўваходзіць некалькі вёсак з хутарамі ( каля 10) на адлегласці шасці і больш кіламетраў. Транспартам нас, вядома, ніхто не забяспечвае. "Бібліобус" — гэта цудоўная мара, знаёмая па савецкім бібліятэказнаўстве. У сувязі з гэтым некалькі пытанняў кіруючаму "паверху":

— ці заробіць сабе на абутак бібліятэкар, шчыра выконваючы свой абавязак?

— колькі кніг можа занесці на сабе жанчына, улічваючы адлегласць і не зусім волатаўскае здароўе?

— наколькі бяспечныя такія вандроўкі?

— колькі дзён будзе закрыта бібліятэка, калі кожную вёску абслугоўваць хаця б адзін раз у квартал? (У перасоўкі нельга чаго даць, ды і не кожны згаджаецца іх арганізоўваць у сваёй хаце, не ўсякаму давершы кнігі, за якія адказваеш асабіста.)

Залічым сюды чарговы адпачынак, дні зарплат і нарад у ЦБС, сесіі сельсавета, блуканні з сельсавецкімі кнігамі (2 — 4 дні ў залежнасці ад колькасці жыхароў і даручаных вёсак), магчымыя хваробы, праполкі калгасных буракоў і інш. Колькі дзён на вёсцы бібліятэка зачынена? Якая б самая ўважлівая прычына ні была б — інфармацыйныя патрабаванні чытача засталіся нерэалізаваныя. Яму ўсё роўна — слушная ці не надта прычына тваёй адсутнасці. Чытач сваё не атрымаў.

Нормамі-планамі наносіцца вялікая шкода прэстыжу бібліятэкі і бібліятэкара. Між іншым нашыя суседзі — літоўцы неяк забыліся на планы. Вядуць статыстычны ўлік, але не плануюць ні колькасці чытачоў, ні наведванняў, ні кнігавыдач (паводле статыстыкі літоўцы не такое чытаючае грамадства, як мы, але ўзровень агульнай культуры, як ні дзіўна, непараўнальны). З запазычальніка тут бяруць мізэрную плату 1 цэнт за 1 кнігу ў дзень. Гэта дысцыплінуе чытачоў і дае нейкі прыбытак бібліятэцы. А мы, як нічога не адбылося, працуем, "даводзім кнігу да кожнага магчымага чытача". Хіба ж не абсурд?

А чыю светлую галовачку некалі азарыла трывалая думка абавязаць вясковых бібліятэкараў весці сшыткі са спісамі жыхароў сваёй "зоны", прастаўляць у іх нумары чытацкіх фармуляраў? Навошта? Відаць, для зручнасці праверкі. Бібліятэкару гэта ж толькі для згубы часу. Каб жа хоць гэтыя праверкі ўплывалі на якасны і колькасны састаў фондаў: сёлетнюю падпіску (узроўню 50 — 60 гадоў), недахоп мэблі, гукавой тэхнікі. Нават аб дзённіку для вясковых бібліятэк не прыходзіць нікому думка паклапаціцца. А іх жа больш, чым раённых, дзённікам для якіх мы карыстаемся.

А навошта завяраць "гадавыя" планы ў сельсавеце? Ніхто ўсур'ёз гэтым там не цікавіцца. І наогул, план — справа інтымная, ці не лепш звяртаць больш увагі на справаздачу, на тое, што зроблена, а не што запланавана.

Маецца пытанне і наконт выразу "апорная бібліятэка". Тэарэтычна гэта вядома з савецкага бібліятэказнаўства, а на практыцы гэта бібліятэка проста мае перавагу ў камплектаванні кнігамі і перыёдыкай. Колькасць жыхароў у зоне "апорнай" і "неапорнай" можа быць аднолькавай, а фонд "неапорнай" удвая менш. А раней фонды вясковых бібліятэк камплектаваліся амаль стыхійна, зараз наогул камплектаванне амаль спынілася. Бібліятэкар не можа паўплываць на фонд ні якасна, ні колькасна. А хто, як не ён лепш ведае свой "кантынгент" і недахопы фонду!

Добра было б нагадаць і аб масавай рабоце з чытачамі. Падрыхтаваць мерапрыемства — значыць знайсці, альбо самастойна напісаць сцэнарый (з улікам аўдыторыі), аб'явы, знайсці і падрыхтаваць удзельнікаў гульняў, віктарын, конкурсаў. Чамусьці цэнтралізавана ніколі не планаваліся нават мізэрныя сродкі на падрыхтоўку масавых мерапрыемстваў. Добра, што наш калгас заўсёды быў спонсарам, але ж не кожны старшыня калгаса такі шчодры, і тады мае калегі самі пякуць торты, купляюць цукеркі і "Фанту". Усё ж не партыйны сход.

Уся падрыхтоўка мерапрыемства адбываецца паміж чытацкіх візітаў. Астатняя работа адсоўваецца. Несвоечасова робяцца запісы ў дзённіку (а ён — твар бібліятэкі, паводле слоў кіраўніцтва), належным чынам не прыбіраецца памяшканне, не распісваецца і не падшываецца перыёдыка і г.д. Пасля мерапрыемства — ліквідацыя аўралаў.

Галоўнае ў любой рабоце — яе вынік. Колькасць чытачоў, наведанняў і кнігавыдач не адлюстроўваюць асноўнага, дзеля чаго існуе бібліятэка — дзеля духоўнага развіцця асобы. Дзеля захавання лічбы парушаюцца функцыі захавання і назапашвання інфармацыі, стварэння інфармацыйных крыніц. Не кожная вясковая бібліятэка мае добрыя каталогі і картатэкі, дакладней, такіх бібліятэк — адзінкі. Не хапае часу, бо заняты бібліятэкар чымсьці не тым.

Наша бібліятэчная сістэма заўжды імкнулася апраўдаць сваё жыццё гучнай лічбай. А гэта, на мой погляд, тое ж, што дасягненнем мастацтва балета лічыць вышыню скачка, як прапанавалі аднойчы гумарысты. Відаць, яны мала знаёмы з крытэрыямі ацэнкі работы бібліятэк. Карысць вясковай бібліятэкі невымяральная. Каштоўнасць яе нельга пераацаніць. 100 — 300 чытаючых сялян — гэта вялізарная лічба, асабліва ўлічваючы характар сялянскай працы. Трэба стварыць умовы для задавальнення чытацкіх патрабаванняў, работы і жыцця бібліятэкара, тады і бібліятэка стане патрэбна большай частцы сялян. Якой работы можна патрабаваць, калі не кожная вясковая бібліятэка ацяплялася мінулай зімой?

Нарэшце хацелася б прыпомніць і жабрацкую аплату працы. Яна ніколі не набліжалася да сярэдняй па краіне. Да таго ж на свае грошы трэба купіць атруту для мух і павукоў, якіх вечная процьма, набыць гаспадарчыя і канцылярскія тавары, патрэбныя бібліятэцы. У сельсаветах даўно зніклі грошы на гэтыя патрэбы. Чаму б цэнтралізавана не набыць венікі, лямпачкі, парашок, ручкі, алоўкі, сшыткі і г.д. і не выдаваць іх праз склад аддзела культуры? Навошта грошы пералічваць у сельсавет? Выбіваць іх безвынікова. Бібліятэчная справа на вёсцы сёння трымаецца толькі на энтузіястах. Дзяржава чамусьці ніколі не шанавала бібліятэкі, а зараз наогул пазбягае клопату аб іх.

Наспела неабходнасць перагледзець трывалыя ўстаноўкі савецкага бібліятэказнаўства, неяк суаднесці жаданае і магчымае, улічваючы патрабаванні жыцця.

**Алена ШЭШКА,**
**загадчыца Кракоўскай бібліятэкі Ашмянскага раёна.**

# УРАЖАНІ

# "КАЛІ ЎСЕ МЫ ЛЯЦІМ ДА ЗОР..."

## РЭПАРТАЖ У ЛІРЫЧНЫМ НАСТРОІ




## У ГОСЦІ ДА МАКСІМА

Ціха-ціха, амаль незаўважна, б'е струменьчык вады. Людзі абгарадзілі яго, паставілі драўляны зруб у выглядзе маленькай хаткі, павесілі конаўку. Хто ні йдзе — абавязкова спыніцца ля крынічкі. Напатоліць смагу. Магчыма, задумаецца...

Крыніцу называюць Максімавай. Яна, верагодна, бруіла тут і 350 гадоў таму — прынамсі, столькі гадоў спаўняецца сёлета вёсцы Ракуцёўшчына. А можа, магутныя прыродныя сілы сатварылі яе раней. Можа, добры чалавек выкапаў трохі пазней, хто ведае?

Максім Багдановіч убачыў крыніцу ў 1911-ым, летам, калі прыехаў сюды, у фальварак дробнапамеснага шляхціча Лычкоўскага, роднага дзядзькі братоў Луцкевічаў, каб натхніцца паэзіяй роднага краю. "А за акном смяецца поле, ...сінеюць міла васількі". Каб падсілкавацца ягоным паветрам і энергетыкай — з 18-ці гадоў паэта мучылі сухоты...

Літаратурна-музычнае ракуцёўскае лета, адухоўленае высокім паэтычным словам Максіма і пра Максіма, першы раз адзначалася на маладзечанскай зямлі ў 1987-ым. Потым яшчэ раз і яшчэ. Але якой-кольвечы пэўнай даты арганізатары не пільнаваліся. Традыцыя з'явілася пазней. Літаратурны музей Багдановіча ў Мінску прапанаваў мясцовым уладам ладзіць падобныя фэсты 27 ліпеня — на Дзень незалежнасці.

Улады не сталі пярэчыць. Улады ў асобе загадчыка (ранейшага і цяперашняга) аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкама, старшыні Красненскага сельскага савета, па меры сіл і фінансава-арганізатарскіх магчымасцяў, сталі памагаць. Транспарт — для падвозу самадзейных артыстаў з раёна. Гандлёвыя латкі: якая смачэчына піва ды слаёнікі з маладзечанскай кілбасой! Шкада толькі, што лёдава на ўсе сасмяглыя раты не хапіла. І міліцыя. Ажно плакаць хацелася ад радасці: на какардах ахоўнікаў парадку красавалася родная наша "Пагоня"!

*Васіль Дранько-Майсюк, ліцэіст:*

— Цудоўнае свята! Зусім не шкадую, што рана ўстаў, што прыехаў сюды. Цікавы музей: свіран, гумно, хатка, у якой жыў Багдановіч, хлявы. Хочацца ўзяць аловак, паперу і маляваць.

*Уладзімір Яшкін, нядаўна вярнуўся з войска:*

— Ніколі асабліва не задумваўся, якія ў нас паэты, барды. А сёння мая мазгавая прастора папоўнілася мо тузінам прозвішчаў. Паэты Загнетава, Рублеўская, Шніп, Дранько-Майсюк, Хатэнка. Артысты Манаеў, Сідарава. І барды: Камоцкі, Акулін, Шалкевіч, Атаманаў, Мельнікаў, Цярэшчанка... Вось толькі скажыце, дзе яна адкапала сабе такое імя — Вальжына? Але спявае добра. Я таксама разам з усімі, як "попка", развучваў песеньку "Зялёны гай" і падпяваў Атаманаву. Ён хацеў "завесці публіку". Ды слабо. Шалкевіч спявае: "Добры дзень, жлобская нацыя!" Мова тут не перашкода — я ўсё зразумеў...

*Жанчына паважанага веку:*

— Я не дзеўка, каб знаёміцца, вы не кавалер. А сказаць скажу: мы ўсе, ракуцёўскія, збіраемся, прыходзім, калі карціну з гэтым... ну, з Багдановічам павесяць. Калі з Мінску людзі прыедуць, з Краснага, з Чысці, можа, і з Маладэчна. Выступаюць надта хараша, спяваюць, гуляюць. Добра, што Багдановіч у Ракуцёўшчыну прыязджаў. Ракуцёўшчына раней у такім брудзе была, гразота, ні праехаць, ні прайсці, а цяпер нам дарогу ажно да Краснага залілі. Во, бачыце, гаспадыні папакідалі кароў, сена, буракі, сядзяць, слухаюць.

— Гэта кепска?

— Не, добра! Бо сёння ж фэст.

## ДЫЯЛОГІ

З Леанідам Дранько-Майсюком

**— Сумна канстатаваць, але святы, на жаль, хутка сканчваюцца. Як будзем жыць далей?**

— Будзем жыць, як жылі: па-беларуску. І гэтаму жыць па-беларуску нас заўсёды вучылі нашы класікі — Купала, Колас, Багдановіч. Ракуцёўшчына, якая натхніла нашага выдатнага Максіма Багдановіча на стварэнне самых нечаканых, тонкіх, запамінальных шэдэўраў — гэта ж беларуская зямля. Энергетыка гэтай зямлі бясконцая, нягледзячы ні на што — ні на якія часы, ні на якія пастановы, ні на якія палітычныя змены. І калі на пачатку стагоддзя яна нарадзіла Багдановіча — значыць, у пачатку новага стагоддзя гэтая зямля народзіць новага Багдановіча.

**— У Вас ёсць на гэта надзея?**

— Не толькі надзея, я проста ўпэўнены ў гэтым, таму што Ракуцёўшчына — гэта, па сутнасці, цэнтр Беларусі. Сам ландшафт сведчыць пра паэзію, хараство, пра прысутнасць на гэтай зямлі вельмі светлых постацяў: Багдановіч, браты Луцкевічы, Купала, і нам застаецца толькі адно — быць годнымі іхняга ўзроўню: этычнага, маральнага і палітычнага. Не хочацца ніколі прамаўляць слова палітыка, але што зробіш... Этыка, паэзія, хараство — усе гэтыя паняцці застаюцца неабароненыя без пэўнага палітычнага ўсведамлення. Час паказвае: нягледзячы на ўсе нашэсці, на ўсе неспрыяльнасці, не знікае сам Бог, не знікае Слова, якое заўсёды значылася знакам беларускасці.

**— У мяне асабіста да Багдановіча асаблівае, трапяткое стаўленне. Такі малады, а якая сталасць у вершах. Безнадзейна хворы, а якая моц, колькі лірыкі, жыццялюбства ў паэтычных радках. І заўсёды дзівіла: не проста вершы, а — рамансы, санеты, тэрцыны, актавы, рандо, трыялет. Я заўсёды шкадавала: так рана пайшоў... Не здзеіў таго, што хацеў. Не зведаў галоўнага — зямнога кахання, не было ў яго дачушкі. Але ён злетуценіў, змроіў і пакінуў нам вобраз Мадонны, дзяўчыны, жанчыны, якая ратуе мужчынаў. Шкадавала, а сёння вельмі выразна адчула: дык ён жа шчаслівы праз сваю смерць.**

— Вядома, гэта трагедыя — памерці ў 25 з паловаю гадоў. Але Вы абсалютна правільна сказалі, што паэт наўрад ці перажыў бы тое, што чакала наперадзе. Пачынаюцца 20-я гады, спрыяльныя спачатку для беларускай культуры, а пасля чым усё скончылася, мы пра гэта ведаем. Адзінае, можа цяпер мы не павінны займацца нейкай псеўдафутуралогіяй, не павінны ўпісваць яго ў савецкі кантэкст. Максім Багдановіч стварыў самы цудоўны палітычны верш — "Пагоню". Ён стварыў самы цудоўны інтымны, лірычны верш "Вераніка". Ён па сённяшні дзень з'яўляецца самым высокім майстрам, які адкрыў для нас французскую паэзію. Ён пераклаў 22 вершы Поля Верлена, і не толькі Поля Верлена, а яшчэ шмат і шмат твораў еўрапейскай паэзіі. З'яўленне Багдановіча — вечнае з'яўленне, нягледзячы на яго юны фізічны век.

* * *

*З Алесем Бяляцкім*

**— Алесь Чобат, прыпісаны, як сам выславіўся, навуковым супрацоўнікам у Гродзенскім музеі Багдановіча, сказаў: "Усе музейшчыкі грызуцца між сабою. А Саша Бяляцкі робіць добрую справу — праводзіць "Ракуцёўскае лета". Дальбог, мне спадабалася апошняе выказванне.** Ён сказаў праўду?

— Алесь — жартаўнік. Але мы даўно знаёмыя, сябруем, сутычак не маем. І з іншымі музеямі і людзьмі дачыненні добрыя. Данута Бічэль-Загнетава выступала не толькі як паэтка, яна — дырэктар Гарадзенскага музея Багдановіча. Вы заўважылі, як хораша звярнулася яна да людзей: "Дарагія мае родзічы". Мы ўсе духоўная радня.

**— А што ў Вашым жыцці Максім Багдановіч?**

— Постаці паэта, яго Літаратурнаму музею аддадзена ўжо восем гадоў. А гэта немалы кавалак жыцця. Так што я з Багдановічам занадта доўга і блізка. Калі коратка: геніяльны беларускі паэт, а потым усё астатняе.

* * *

*З Антанінай Хатэнка*

**— Дзве вялікія любові: Купала і Багдановіч. Ці не цесна ім у адным сэрцы?**

— Не, не цесна. Яны настолькі перапляліся, настолькі паядналіся ў маёй свядомасці, у гэты вяночак уплятаюцца яшчэ шмат постацяў, што размінуцца ім, адасобіцца адно ад другога немагчыма. Пасля купалаўскіх Акопаў, Вязынкі, дзе ўсё так знаёма, я ў Ракуцёўшчыне ўпершыню. Адчуванне, што гэта тая ж самая зямля. Але адметнасць, мелодыка кожнай мясціны застаецца. У Акопах я пачуваю сябе маленькай. Там Купала настолькі магутны, настолькі выяўлены, Купала практычна ўвесь!

**— Можа, гэта ўражанне не столькі ад вонкавага атачэння, колькі ад набытага намі духоўнага вопыту. Купалу мы ведаем і ўспрымаем сталым, а Максім пайшоў ад нас так рана...**

— Магчыма, але калі параўноўваць Максіма паводле вызначэнняў у паэзіі, то Максім ні трошкі не меншы.

**— Сёння, калі я глядзела на людзей, на дрэвы, на траву, вось якая паралель прыйшла ў галаву. Максім адышоў у 17-ым, як быццам засцерагаючы сябе ад усяго гэтага буралому: людскога, душэўнага, прыроднага. Прырода таксама пакутавала ад таго, што рабілі людзі. Яно ўсё ж знітаванае.**

— Калі праводзіць паралель з Купалам... Купала адышоў у 42-ім. Самы націск гэтае вялікае вайны, страшнае, жахлівае, якая не была, на мой погляд, айчыннаю. Варажнеча не можа быць айчыннаю ці радзіннаю. Вайна — гэта з'ява, спароджаная агрэсіўным людскім розумам. І смерць Купалы, мне здаецца, як і шмат каму, была незнянацку, не выпадковая. Але так яно надарылася, так было недзе прадвызначана, і гэта як абарона самога сябе ад таго, што прыйшло на бацькаўшчыну, пад кім яна. Гэта не толькі вораг знешні. Гэта наша вечная раскрыжаванасць ва ўсім яе поўным увасабленні.

**— Я б сказала так — пакінутасць. Такая жахлівая адзінота... З сяброў амаль нікога не засталося: закатаваныя, сасланыя, Саюз пісьменнікаў выцераблены пад корань...**

— І кінутае гняздо, далёка ад радзімы, торбачка з зямлёй, якой ён нагарнуў адыходзячы, ад'язджаючы, як бы прадчуваючы, што гэта апошняе, што ён можа ўзяць, што болей ён да гэтай зямлі не вернецца, на яе не ступіць.

І Максім. Ён таксама ад'язджаў з Менску ў вайну, з тае хаткі, дзе слухалі ўпотай "Пагоню". І гэтая ягоная самотнасць у белым доме ля сіняй бухты, і гэтыя ягоныя развітальныя лісты да бацькі, дарэчы, на расійскай мове. Я, прыкладам, вельмі паважаю Адама Ягоравіча і вельмі хілюся да таго, што ён зрабіў, удзячная яму, але паглядзі — і лёс, і час зрабілі з гэтага чалавека свой плод. Ён даследаваў міфалогію, самае істотнае, самае арганічнае, што вызначае нацыю, але пісаў пра ўсё гэта чужыннаю моваю. І сын ягоны быў вырачаны на вечнае скрыжаванне, колькі б яму ні давялося жыць. Лёс так склаўся, што ён памёр малады. Але так ці інакш ён шукаў мову не ў сабе, а недзе ў далёкіх генетычных кодах, якія цяжка ў ім ажывалі.

А што робіцца сёння з нашым людам? Хіба няма генетычнага кода, хіба не занатавана ўнутры нас, што мы ёсць прыналежныя да гэтай зямлі?

**— Наступаеш на самы балючы мазоль.**

— Тут, у Ракуцёўшчыне, прыходзіць да мяне яшчэ не надта акрэсленая, кволая думка: мы перастаем змагацца. Не ў сэнсе "кідацца на амбразуру". Калі адбыўся рэферэндум, мне было вельмі пакутна. А потым стала супакойвацца: можа, так трэба. Памудрэць унутры сябе, не кідацца на амбразуру, дзе ты згінеш і нічога не давядзеш, і нічога не пераніцуеш, і не пераменіш. Пакуль чалавек унутры сябе не выбера, не здзейсніць гэты векавечны выбар, хто я ёсць тут? дзеля чаго я тут? ці трэба мне воля? — датуль нічога не здарыцца, колькі б мы чаго ні мянялі, каго б ні выбіралі.

**— Але, на жаль, такая праца душы і розуму пад сілу не многім.**

— На вялікую ўцеху, сёння я не ўсіх людзей ведала, як гэтае бывае ў нас на святах, калі ўсіх пазнаеш. Я не ведаю, я не сустракала гэтага чалавека, але ён тут. Значыць, ён прыйшоў да сябе, ягоны выбар адбыўся.

**— А колькі маладых людзей было! Гэта, бадай, галоўная адмеціна фэсту. І як хораша раскуплялі Максімавы кнігі. Я бачыла, як маладзенькая дзяўчына набыла трохтомны Збор твораў паэта, як пяшчотна пагладзіла вокладку, а потым панесла — ад латка, праз усю "залю"-паляну, прыціскаючы кнігі да грудзей, нібы маці дзіцятка.**

— Вось паглядзі гэтыя хлявы. Такое побытавае слова, нават трошачкі прыніжанае, будыніна, якую мы змушаныя трымаць дзеля таго, каб выжыць фізічна, матэрыяльна. Але праз гэтыя кроквы прасочваецца нейкае своеасаблівае святло, яно напоўненае нашаю думкай. І калі мы будзем прыходзіць на тыя самыя мітынгі, шэсці не дзеля таго, каб супрацьстаяць камусьці, мне неадпаведнаму, а дзеля таго, што збіраю самога сябе, з аскепкаў, па кропачцы, па дробачцы (я — сама каштоўнасць. Я ведаю сябе, я ведаю свой шлях, я хачу яго здзейсніць), тады ўсё распачнецца нанова. Мы пакуль што разбэрсаныя, раскіданыя на нейкае знешняе змаганне, а па сутнасці трэба змагацца з самім сабой.

Як давесці кожнаму чалавеку, што толькі ў сабе можна выснаваць асобу, і тады вакол паўстане дзяржава з асобаў? Я не ведаю, але прыходжу да высновы, што на такіх вось святах адбываецца павольны зрух.

**— І ў сем'ях. Усё добрае і кепскае пачынаецца там. У Ракуцёўшчыну ты ўзяла амаль дарослую сваю дачку і маленькую. Вось бегае сынок Бяляцкага, вунь задуменны — Дранько-Майсюка. Мая Надзея таксама тут. А колькі дзяцей, татаў і мам, якіх мы не ведаем. І ракуцёўскія ўсе, пэўна ж, сем'ямі.**

— Гэта натуральна. На жаль, самыя арганічныя натуральныя з'явы ў выхаванні парушаны. Многія бацькі не ставяць ніякай мэты, не ведаюць, якіх грамадзян яны выхоўваюць. Яны проста пра гэта не думаюць. А ўсё мяняецца ад думкі — у прасторы і ў часе валадарыць толькі яна.

**— Кажуць, спіць народ. Не, ён не спіць — ён хоча есці, піць, хоча апранацца, хоча адпачываць. І гэта натуральныя жаданні. Хіба можна іх асуджаць?**

— Я не асуджаю. Але мне сорамна перад Купалам, перад Багдановічам, перад Цёткаю, сорамна за тое, што мы б'емся ў тым самым сіле. Яны столькі зрабілі. Яны паклалі жыцці.

Я ўяўляю дакладна, па малюначках, гэтак, як збіраюць дзеці з каляровых шкельцаў ці каменьчыкаў мазаіку, так я ўяўляю, як давялося таму самаму Максіму на чужыне сыходзіць і верыць, што Пагоня — гэта не выдуманая, не выштукаваная ім з'ява, а сапраўдная рэальнасць, гістарычная, містычная, калі хочаце — касмічная. Ён у гэта верыў. Ён адыходзіў прасветла, захлынаючыся крывёю.

Я ўяўляю, як Купала ляцеў у лесвічны пралёт у конадзень свайго 60-годдзя. А раней прайшоў праз спробу насмельнасці неяк пайсці, знікнуць, нічога не бачыць; ён прайшоў праз прыстасаванства — не душэўнае, а вонкава-матэрыялізаванае. Ён выседзеў у гэтай Ляўкоўскай "залатой клетцы", як назваў Рыгор Барадулін. Але па сутнасці гэта рабілася ўсё толькі дзеля таго, каб прыйшло прасвятленне.

І мы сёння апынуліся ў той самай цямрэчы. Гэта неяк непраўдзіва, нелагічна, несправядліва. Мне сорамна перад імі ўсімі. Сорамна перад Цёткай, якая пайшла ў тыфознай гарачцы, паклаўшы практычна лёс, жыццё на тое, каб хоць хто-небудзь ды прасвятлеў. І гэтыя страшныя купалавыя радкі "А колькі нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой?", на жаль, яшчэ праўдзівыя.

**— Чую: "Мы зноў у цямрэчы", і робіцца непамысна...**

— Памятаеш, у Караткевіча, у "Ладдзі роспачы", ёсць такое: "Маё неба нашу ў сабе". Пакуль мы сваё неба ў сабе не адкрыем, неба над намі будзе пахмурнае. Мы бездапаможныя, бо неба нашае замкнёнае на ўсе цяжкія замкі, якія існуюць у рэальнасці, якія мы самі на сябе навешваем. Многа грашылі, многа адступаліся, і цяпер адступаем. Але, барані Божа, каб замест адступлення было наступленне. Толькі святло, якое трэба з сябе вымкнуць — гэта адзіны наш шанец. І ніяк не наадварот. Наступ — наступ — гэта ланцуговая рэакцыя, яна спрацоўвае імгненна, і перастануць буяць краскі. А пакуль што яны, дзякаваць Богу, буяюць. І яны нас сёння ратуюць. Мы іх топчам, а яны ўстаюць і зноў ратуюць.

**— І ратуюць паэты. Бо тое, што завецца класікай, заўсёды застаецца ў цяперашнім часе.**

*Хто мы такія?*
*Толькі падарожныя — папутнікі сярод нябёс.*
*Нашто ж на зямлі*
*Сваркі і звадкі, боль і горыч,*
*Калі ўсе мы разам ляцім*
*Да зор?*

**Алена ТРУСАВА**
*Ракуцёўшчына, 27 ліпеня 1996 г.*

*На здымках: выступае бард Алесь Камоцкі.*
**Фота Тамары САРАКАЧ**




Аляксандр ЛЮЦКО



# ТЭОРЫЯ НЕНАРМАЛЬНАСЦІ*

На пачатак пазнаёмімся. Мая краіна – Беларусь, створаная пасля распаду Савецкага Саюза. Хачу запэўніць прысутных, што гэта еўрапейская краіна і няма патрэбы шукаць яе ў экзатычных пушчах каля Балі ці Чада. Дзікія амерыканцы цьмяна ўяўляюць сабе еўрапейскі кантынент як нешта, што не ўваходзіць у Злучаныя Штаты. Некаторыя нават згадваюць, што гэта мясцовасць на Усходзе, якая мяжуецца з Польшчай. Больш адукаваныя далучаюць да Еўропы і Брытанскія астравы, хоць тыя і плывуць адно зблізу еўрапейскага ўзбярэжжа па ўласнай традыцыі ў няправільным накірунку. І толькі вельмі няшмат досыць адукаваных ведае, што Еўропа ўключае ў сябе Брытанскія астравы і ўсю прастору да Уральскага хрыбта. Калі прытрымлівацца панятка Вялікай Еўропы, то ў самым геаграфічным яе цэнтры лёгка заўважыць амаль двухмільённы горад Мінск. Акаляючая яго прастора, забруджаная радыяцыяй, называецца Беларусь, і месціцца на ёй 10 мільёнаў людства. Гэта цудоўная краіна сарака тысяч блакітных азёраў у хваёвых, бярозавых ды дубовых лясах. Мяккі клімат. Каб такі клімат іншай краіне, то яна была б такой вытворцай садавіны і гародніны, якой пазайздросцілі б заходнія рынкі.

Заўважыць, дзе пачынаецца краіна беларусаў, няцяжка нават зверху. Пралятаючы польскую мяжу з захаду, дзе пярэсціць вочы ад дробных шматколерных латак, адразу заўважаем нямераныя аднастайныя калгасныя палі. Адным словам, розніца заўважная нават з самалёта. Натуральна, гэта само па сабе ні пра што не кажа, акрамя таго, што хаця бульбу вырошчваюць і там, і тут, але завозіць яе для спажывы неўзабаве давядзецца ўсё ж такі з Польшчы.

Што яшчэ адразу кідаецца ў вочы, дык гэта адсутнасць слядоў старой цывілізацыі, спадчыны стагоддзяў. Амаль не засталося старажытных замкаў, касцёлаў і цэркваў, хаця Мінск і яшчэ некаторыя беларускія гарады старэйшыя і за Маскву, і за Эдзінбург.

Знаходзячыся пасярэдзіне Еўропы, Беларусь заўсёды была на скрыжаванні палітычных памкненняў захаду і ўсходу, поўначы і поўдня. Тэўтоны, рыцары Карла XII, стральцы Івана Жахлівага), палкі Напалеона і шмат хто яшчэ, перасякалі гэтую краіну ва ўсіх накірунках. Да здзіўлення немцаў, рускіх, шведаў, палякаў, французаў, на гэтай шматлюднай ваеннай дарозе жыло нейкае насельніцтва, стаялі дамы і цэрквы. Усё гэта заваёўнікам, якія пляжылі зямлю і людзей, замінала рухацца, таму будынкі разбураліся, а людзі зніштажаліся без ліку. Толькі ў Другую сусветную вайну загінула ці то трэцяя, ці то чацвёртая частка беларусаў, пра што спрачаюцца гісторыкі. Да таго ж тры хвалі эміграцыі, ды сталінскія Курапаты...

Да здзіўлення першых радыёлагаў, што з'явіліся на Бікіні, дзесяткі магутнейшых ядзерных выбухаў не зніштожылі гэтыя невялікія кавалкі зямлі. Наадварот, уразіла густая зеляніна. Праўда, зніклі складаныя жывыя формы, іх месца занялі прымітыўныя... Мэтаскіраваная селекцыя спрасціла добры і не ў меру цярплівы народ, але бясконца пагоршыла якасць жыцця.

Чалавецтва існуе так доўга, што прыдумаць зусім новую гістарычную сітуацыю досыць цяжка. Прынамсі, да кожнага выпадка амаль заўсёды адшукаецца пэўная аналогія. Пасля смерці Салазара партугальскія калоніі апынуліся ў стане сам-насам.І вось што з гэтага атрымалася. У Мазамбіку, на поўдзень ад Эквадора, няма вялікай спякоты, круглы год там цёплае лета. Калі паглядзець на афрыканскую мапу, то другой такой вялікай лясной раўніны, як між Лімпапо і Замбезі, не адшукаць. Але там, дзе багата родзіць усё, што расце, ад голаду паміраюць людзі. Ніхто, акрамя грамадзян сацыялістычнага рэгіёну, таксама заклапочаных пошукамі харчу, на адной шостай частцы зямной кулі, дзе маюцца ўсе верагодна магчымыя ландшафты, а трэцяя частка насельніцтва займаецца вытворчасцю харчавання, — не можа зразумець гэтага феномена. Быццам у прыклад неразумнасці ўладкавання чалавецтва прырода падарыла Мазамбіку медзь, поліметалы, выдатнай якасці цэмент, вугаль і жалезныя руды, а паўднёвы імперыялістычны сусед пабудаваў тут самую буйную электрастанцыю ў свеце. Але ж вось бяда, няма каму сказаць там грамадзяніну, што з дрэва, пад якім ён уклаўся паміраць з голаду, трэба сарваць плод, а ў шыкоўнай віле, пры наяўнасці электрапліты, няма патрэбы раскладваць вогнішча. Замест збёгшых партугалаў пакрысе з'яўляюцца там свае афрыканскія лідэры зусім не шляхетнага паходжання. І пачынаюць яны з падзелу ўлады і каланіяльных рэшткаў багацця.



Беларусь цяпер як бы з заходняга боку ад Расіі. Але яна па-ранейшаму застаецца стратэгічным гасцінцам на неабдымны ўсходні рынак. Геаграфію не адменіш. І зноў праз яе ездзяць туды і назад. Нават болей, чым раней, бо падстаў для сацыялістычнага самапаядання ў усходняга суседа не засталося. Між тым мясцовае насельніцтва, хоць і моцна прарэджанае, усё яшчэ тут жыве —праміж дарог і чужых нафтаправадаў.

Быў час, калі газета "Правда" аб'ядноўвала камуністаў і ўсіх кіраўнікоў. А для іншых пенсіянераў былі іншыя выданні. Цяпер занядалыя газеты чытаюць хіба толькі палітыкі і рэдкія бізнесмэны, небеспадстаўна чакаючы паскудства ад улады. Пакуль па тэлевізары танчаць і спяваюць, нічым не аб'яднанае насельніцтва боўтаецца ў прасторы, замкнутай дзяржаўнымі сценамі. Няма ў яго ніякай нацыянальнай ідэі і бабця Ганна верыць толькі старшыні сваёй вёскі, які для яе ад старасвецкіх часоў увасабляе панскі бізун, але на п'яную галаву можа і каня даць. Бабці Ганне гэта больш істотна за ўсё іншае, бо яна будзе жыць з бульбы, якую сама пасадзіць і сама выкапае. А з Мінска з канём ёй не дапамогуць.

У "пабочнай" краіне з'явіліся свае палітыкі, на жаль, па паходжанні не лорды. Сцячэ шмат вады, пакуль яны падзеляць застаўшыеся ад Саюза дабро і ўладу... Некалі і тут здагадаюцца прыняць закон, па якім: улада — ганарыстым, багацце —бізнесу. І каб ніколі гэтыя два панятні не падмянялі адзін аднаго. Можа, тады і не будзе гэтак шмат жадаючых засведчыцца ў палітыцы.

Новая бяда абрынулася ў 86-м. Ад Чарнобыля Беларусь пацярпела болей за якую іншую краіну. Праз пяць год Маскоўскі кангрэс памяці Андрэя Сахарава рэкамендаваў урадам пацярпелых ад радыяцыі краін адкрыць спецыяльныя сахараўскія універсітэты па чарнобыльскіх праблемах. Так у Мінску ўзнік Міжнародны сахараўскі інстытут па радыёэкалогіі, які ўжо і на захадзе, і на ўсходзе называюць унікальным. Якая ягоная місія, у чым адметнасць гэтай ВНУ?

Цяпер з'явілася столькі эколагаў, што неяк нават няёмка пытацца, што яны вывучаюць. Прыродзе ад іхняга мноства ні холадна, ні горача — гібее пакрысе. І што прыкметна, чым горшы стан прыроды, тым болей з'яўляецца эколагаў. Адныя лічаць сваёй справай ахоўваць знікаючых птушак, другія — змагаюцца з кансервовымі бляшанкамі і недапалкамі. Нядаўна прыязджалі параіцца адказныя за экалогію аднаго буйнога расійскага горада. Яны вынайшлі вельмі далікатныя тэхналогіі. А трэба сказаць, што ў гэтым горадзе бываюць вельмі моцныя вятры. І гэтыя вятры ганяюць па вуліцах агорткі, семкавае шалупінне і іншае пабытовае смецце. І легкавікоў у гэтым горадзе па два на кожнага жыхара. Так што паміж легкавікамі не прайсці, не праехаць. Да асцярожнай парады спачатку падмесці горад і нешта зрабіць з аўтанашэсцем мясцовыя эколагі цікаўнасці не выказалі.

Неяк у сахараўскім інстытуце адбыўся спецыяльны семінар, дзе спрабавалі разабрацца з самім вызначэннем экалогіі. Як і трэба было чакаць, нічога вартага з гэтага не атрымалася. Расплывістае вызначэнне экалогіі як дысцыплінарнай навукі для паляпшэння асяродка бытавання толькі дадало туману. На маё перакананне, пакуль ніякай навуковай экалогіі не існуе ў прыродзе і кожны мае права мець сваё меркаванне на гэты конт і рабіць адпаведны ўнёсак згодна ўласных ідэяў. Кожная навука, да таго як яна стала ёй называцца, прайшла ўсе стадыі ад назапашвання дадзеных да фармавання цэласнай тэорыі. Вось гэтыя стадыі: НАЗАПАШВАННЕ ДАДЗЕНЫХ — ПЕРАПАЛОХ АД ІХ ЛІШКУ – ПРАДУМВАННЕ – АДКРЫЦЦЁ ЗАКОНАЎ – ПАБУДОВА ТЭОРЫІ.

Калі вы маеце тэорыю, ведаеце яе законы, то вы без цяжкасці прадбачыце наследствы, якія вынікаюць з тых ці іншых вашых учынкаў. А калі вы здольныя прадказваць любыя паводзіны вывучаемай сістэмы, у вас ёсць усе падставы называць вашу тэорыю навукай. Напрыклад, у класічнай фізіцы дзейнічаюць усяго тры галоўныя законы. Яны вельмі простыя і ўтрымліваюць не болей трох пераменлівых. Калі вы маеце справу з целам і уздзейнічаеце на яго пэўнай сілай F, то можаце быць упэўненымі, што цела пакоціцца з зусім пэўным паскараннем — a-:

$$F = ma$$

Ураўненні класічнай фізікі, як бачым, вельмі простыя. Але паспрабуйце дадаць сюды хоць адну мінімальную пераменную, і вы ўбачыце, як ускладніцца ўраўненне. У экалогіі адначасна дзейнічаюць тысячы пераменных, якія апісваюць глебу, ваду і паветранае асяроддзе, іх узаемадачыненні, — а таксама расліны і жывёлаў, якія з іх харчуюцца; да таго ж адкіды кожнага з галоўных шкоднікаў — людзей.

Наша стагоддзе называлі "атамным", "паўправадніковым", стагоддзем "інфарматыкі" і г.д. А вось наступнае стагоддзе напэўна назавуць экалагічным. На жаль, не гэтае, бо пакуль прадказваць экалагічныя наступствы ўмяшальніцтва ў прыроду ў бальшыні выпадкаў мы не ўмеем. Хаця сёе-тое пачысціць і палепшыць можна. Праўда, нават сціплыя экалагічныя праекты па кішэні толькі вельмі багатым краінам. Засмечваць заўсёды лягчэй, чым прыбіраць. Некалі, год трыццаць таму, адшукваючы недахопы імперыялізму, журналісты апантана апісвалі смогі і паміраючыя вялікія азёры. І гэта было праўдай. Але смогаў болей няма, дыхаць на Манхэтане лягчэй, чым у Мінску пры непрацуючай індустрыі, а Антарыя і Мічыган — цудоўныя месцы для адпачынку і рыбалкі. Значыць — можна. Успамінаючы бацькаўшчыну, дзе ў любым накірунку бачныя гіганцкія коміны з клубамі дыму, я ўсё спрабаваў здагадацца, у якіх кустах яны, квітнеючыя, хаваюць свае трубы? Але тое — Амерыка. Ёй можна адно зайздросціць, са скрухай шукаючы апошніх "зайцаў" у дзіравых бюджэтных кішэнях.

Не маючы экалагічнай тэорыі для прадказання пагаршэнняў, можна разлічваць толькі на адзін эфектыўны шлях — жыць ціха і дзіка па грынпісаўскаму лозунгу "Не чапай прыроду!" Але ж сёння ніхто, нават сучасныя закаханыя (акрамя хіба студэнтаў на канікулах), не стане жыць у намётах. Жанчыны цяпер пераверэдлівыя і патрабуюць не толькі цёплых кватэраў, але і іншых дарункаў прагрэсу. Так што лепей выкінуць з галавы вар'яцкую ідэю аднаўлення асяродкаў бытавання да першароднай чысціні. Давядзецца пагадзіцца і з тым, што з цягам часу дыхаць будзе ўсё цяжэй. Але ці нельга пагаршэнне якасці навакольнага асяроддзя зрабіць некатастрафічным і жыць у суладдзі з прыродай? Мяркую, можна. Аднак гэта магчыма толькі праз нетрадыцыйны, асаблівы шлях.

Згадаем, што мы няпэўна вызначылі экалогію як нешта міждысцыплінарнае. Мяркуецца, што эколаг павінен ведаць фізічныя, хімічныя, біялагічныя і яшчэ шмат якія метады. Наўрад ці гэта рэалістычна, бо пара вялікіх энцыклапедыстаў, як Мантэск'ё, Русо ды іншыя, у галовах якіх змяшчаліся ўсе значныя навуковыя адкрыцці, даўно прамінула. За наступныя два з паловай стагоддзі кожная навука назапасіла такую колькасць інфармацыі, што спецыяліст можа быць добрым прафесіяналам толькі ў адной вельмі вузкай сферы. Абмежаванасць мазгавой прасторы дазваляе чалавеку цяпер толькі выбіраць паміж веданнем:

УСЯГО аб НІЧЫМ

ці

НІЧОГА ПРА ЎСЁ.

Гэта безвыходная альтэрнатыва як быццам не пакідае ніякіх надзей эколагам, у справе якіх нехта павінен час ад часу азіраць усё наваколле вузкапрафесійных памкненняў. Калі мы хочам жыць у прымальным асяроддзі хаця б у будучым стагоддзі, давядзецца няпэўную экалогію рабіць навукай, для чаго ўжо сёння трэба рыхтаваць энцыклапедыстаў сучаснага ўзроўню. Рэцэпт іх вытворчасці выглядае прыкладна так: бяруцца адмысловыя маладыя людзі — зыходны таленавіты матэрыял, з якім па сінергічных адукацыйных праграмах адначасна працуюць, не забываючы стасавацца паміж сабой, матэматыкі, фізікі, хімікі, біёлагі, праграмісты і іншыя дактары ды батанікі. Натуральна, прыроду такім шляхам не падманеш, але можна дасягнуць пэўных вынікаў у ведах.

Па гэтым шляху мы і ідзем у сахараўскім інстытуце. Гэта, бадай, і ёсць яго асноўная унікальнасць і адметнасць.

*Фрагмент з працы (з аднайменнай назвай) рэктараМіжнароднага інстытута па радыялогіі імя А. Сахарава.

## Мікалай ШЫРОКІ

# "...ПАД АДНЫМ КРЫЛОМ..."



"...Айчына, і на птушаняці, што вылупіліся, і на яго пустой шкарлупіне..."

* * *

"...вярнуўся, усё тое самае, толькі пастарэў — дык ці варта было..."

* * *

"...грукаюць, і, абняўшы сябе, адчуваеш, як млеюць ногі..."

* * *

"... глядзі, які свет, ну! яшчэ глядзі..."

* * *

"...сняцца грошы, яшчэ і яшчэ, і ты да раніцы не вёдаеш, што з імі рабіць..."

* * *

"...крылы белыя і сінія вочы, і рукі ў крыві..."

* * *

"...вайна, і ляжаць без справы целы, думкі зблыталіся ў брудных валасах..."

* * *

"...хлеб крышыць, галубоў карміць, і скормліваць іх вам..."

* * *

"...вось хвалі, човен — тапельцы бачаць яго-нае дно..."

* * *

"...нават ваўкі спявалі тады — і дзеці слухалі і крычалі..."

* * *

"...сэрца выплюнуў і стралой у зубах порхаецца, шукае застраглы час..."

* * *

"...неба каленямі ціснуў, рассоўваў яго, хацеў разгледзець..."

* * *

"...арэлі, на іх двое братоў і вецер..."

* * *

"...брат мой побач са мной, без галавы ляцеў..."

* * *

"...голас за дзвярыма, яшчэ далей, можа і памёр, а я яго чую..."

* * *

"...з крылаў робяць колы, з колаў крылы — і рагочуць..."

* * *

"...круцілася кола, знікла спіца за спіцай, у пустэльні знаходзіш месца і не бачыш апошнюю..."

* * *

"...спрытна ўверх дном перакульваю галаву і жыву..."

* * *

"...бегчы і зямлю ўспамінаць пад нагамі, як пекла..."

* * *

"...і бегаць будуць, лавіць рукамі знікаючы горад..."

* * *

"...стужка чорная, некім забытая, у тугі вузел звязаная..."

* * *

"...з фотаздымка да мяне стукае смерць..."

* * *

"... белы трохкутнік на сінім, ухвала і праклён вясны..."

* * *

"...вялізнымі літарамі, зялёнымі і чырвонымі, у вакно грукалі..."

* * *

"...смех, голад, зноў смех і зноў голад..."

* * *

"...муляжы тамоў і стрэлкі, якія я перасоўваю дзеля часу..."

* * *

"...склеяныя выявы, задзіночанне гэта ці разрыў..."

* * *

"...глядзі, як паляць твайго бацьку, без агню паляць..."

* * *

"...забыць, як яе зводзілі, не — яна сама ішла...
"

* * *

"...лёсы, калі іх лічыць — ператвараюцца ў лічбы..."

* * *

"...адчыніліся дзверы, потым яшчэ — і сонца ноччу..."

* * *

"...натуральна, рукі, толькі вось колькі іх трэба..."

* * *

"...пляма на сценах сабора, слова ўспамінаю — свабода?.."

* * *

"цёмныя салодкія навальніцы, гронку вінаградную бачу..."

* * *

"... і плакаць, і хаваць вочы, і самому ў іх хавацца..."

* * *

"...мы паўтараемся раз-пораз і пераўтвараемся ў танец..."

* * *

"...і пытаецца: ці будзем мы жыць... жыць?.."

* * *

"...нават працяты наскрозь, спявае звер лялечны..."

* * *

"...калі мы вернемся, колькі нас будзе?.."

* * *

"...смешны час, смешныя людзі і Вера — слова з 4-х літар..."

* * *

"...кожную ноч ад'язджаць, застаючыся на месцы, і вырасце дрэва..."

* * *

"...у намалёваныя вочы глядзяць жывыя, і наадварот..."

* * *

"...калі ў цемры запаліць запалку — здараецца час убачыць..."

* * *

"...пазяхнуць і ўзгадаць: учора спазніўся, цяпер ужо на ўсё жыццё..."

## Вольга КАЛАБАН

# ЗРОК

(В.С. на разьвітаньне)

### INTRADA

У мяне кепскі зрок. Гэта азначае, што аддаленыя з'явы я бачу ў нейкім іншым свеце — іх межы павінны, як сьведчаць сьпецыялісты, расплывацца і страчваць рэзкасьць.

Сьпецыялісты раяць надзець акуляры. Сьпецыялісты памыляюцца.

Асоба жыве не ў любові да назіраньня, а ў зроку. Я аднолькава поглядам абдымаю вуглаватае і мяккае, прыгожае і абразьлівае... Але ж зусім іншае бачу, бо гэта — каляровая гладзь майго позірку, вільготная і празрыстая, а вось што яна тоіць, ведае толькі існасьць назіраемага.



## Лю Чжань Чу

# ВЫЙДЗЕМ ЖЫЦЦЮ ПАКЛАНІЦЦА

***Усе больш пераконваешся, што зямля невялічкая, а жыццё заўжды непрадказальнае. Пацвярджэнне — гісторыя гэтай публікацыі. На міжнароднай сустрэчы пісьменнікаў у Белградзе давялося пазнаёміцца з кітайскім паэтам, які сваёй творчасцю імкнецца спалучыць сваё традыцыйнае нацыянальнае з чужым, паводле традыцый, але запраграмаваным на універсальнасць, еўрапейскім. У калегі ўзнікла жаданне быць прадстаўленым беларускаму чытачу, а ў мяне з'явілася патрэба дапамагчы рэалізаваць яго. Перакладалі разам, пры некалькіх мовах-пасрэдніцах, "на мігах" у дадатак. Што з гэтага выйшла, ацэньваць іншым. Я ж проста выканаў свой абавязак сувязніка, у дадзеным выпадку вельмі няпросты, хоць па-свойму прыемны.***

***Перакладчык***

### НОЧ СМАЛЫ І КАНЮШЫНЫ

松香和三叶草的夜

*Ноч смалы і канюшыны*
*Ён табе хусцінку тую падарыў*
*У далечыні мора, месяца засень*
*Па цёмным садзе шмыгае лісіца*

*Разышліся тыя, што ўдзень гасцявалі*
*Апусцелі плеценыя крэслы і сумуюць*
*А вось лес хавае яшчэ снег без ценяў*
*Ціха з дрэва падае лісточак*

### НЕ РАЗДУМВАЮ ШТО ЧЫМ СКОНЧЫЦЦА

我不去想会怎样结束

*Не раздумваю што чым скончыцца*
*Калі ўжо паднялася заслона*
*Весела трэба роль выканаць*
*Калі ўжо ружы ў тваіх абдымках*
*Варта істотаю ўсёй упіцца іхняй*
*расы салодкай*
*Калі ўжо чоўнік малы ад берага рушыў*
*Нават да выспы бязлюднай прыстаўшы*
*дасягне пэўнай мэты*
*Калі ўжо паўзеш скрозь гушчар*
*некрануты*
*Чаго баяцца хіжага тыгра ці*
*ядавітай гадзюкі*
*Во як вясна ўжо ізноў забуяла*
*Холад завеі надоўга змяняючы*
*Ніколі душа проста ў рай не хацела*
*Да ўсіх пакутаў зямных штохвіліны*
*гатовая*
*І калі застанецца ўжо сцэна зусім*
*без акцёраў*
*Выйдзем з усмешкамі ты і я ўсё ж такі*
*Каб раз астатні жыццю пакланіцца*

### СОНЦА ПРОМЕНЬ ПЛЯЧО МНЕ ГЛАДЗІЦЬ

阳光抚摸着我的肩膀

*Сонца промень плячо мне гладзіць*
*Цёплае хоць і бязмоўнае наша*
*спатканне*
*Але ён не мой*
*З надыходам вечара мы такі*
*разлучаемся*

*Вершы запоўняць радасцю мае вушы*
*І ўсе пачуцці іх прымаюць адразу*
*Але яны не мае*
*Прападуць пакінуўшы невымоўныя*
*згадкі*

*Калі пацалункам жанчына вусны мае*
*асвяжае*
*Кроў закіпеўшы ачырваніць скуру*
*Але яна не мая*
*Сваім харастовом убоства майго не*
*змяняе*

*Эх, чалавеча разумны як быццам*
*Нашто дамагацца ва ўсім прысваення*
*Многае меўшы аднак сам застаешся*
*Самы надзейны ключ у любоўным*
*развітанні*

### НЯМА АРТЫСТА ЯКІ НЕ ПАКІНЕ СЦЭНЫ...

没有不下台的演员

*Няма артыста які не пакіне сцэны*
*І няма гледача які не выйдзе з тэатра*
*Сто адзін раз гучаць апладысменты*
*Заслона ж апусціцца сто два разы*

*Але хадзем кроплі дажджу падаюць нема*
*Хоць зямля іх прыняць назаўжды не можа*
*Толькі шляхам сваім доўгім, доўгім*
*Радасна шчыра ўпарта прайсці належыць*

***Пераклаў Іван ЧАРОТА***





## УЗЫХОДЖАНЬНЕ

У пустэчу прыйшло разуменьне. Ізноў, як першы раз і як іншы. Туды, дзе не існавала сухіх лугавін, колераў і пахаў, дзе кожнае імгненьне было падзелена пакрыўджанай лініяй пытальніка на Тое, што чакала, і Тое, што калісьці было асэнсавана зрокам.

Я нічога не ведаю пра іншыя вымярэньні, і лічбы, што вызначаюць іх асабістыя якасьці, для мяне — забарона, праз якую я не здолею перайсці, пераступіць, паставіць кропку ў пытальніку. Але ўсе тыя сістэмы, якія праходзяць — як гук розныя часовыя вымярэньні, — мой уласны ўнутраны Сэнс, ніколі не спыняюцца ў адвечным руху.

Аднойчы гэта ўсё трэба было прыдумаць, але пойдзе ў лістападзе першы сьнег, і іншыя вымярэньні зноў адчыняцца: як шляхі, як вены.

## СТРАТЫ

Страты зьяўляліся на нейкае імгненьне, ападалі долу кропелькамі і зьнікалі, пакідаючы празрысты сьлед.

Там, дзе ў сьцішанай цёмнай спякоце мільгацелі сьвечкі, страт не было. Цяплом, гараччу залівала вочы — не халоднымі хвалямі болю.

У пакоі варушылася страчанае. Страчанае насуперак часу, бо не магло, не зможа не апасьці на вільготны шэры бляск.

У глыбіню сваю ўдыхнуўшы ўвесь адчай — ад гукаў сьцішаных крокаў, ад жаданьня зьнікнуць у змрочнай шэрані нізкіх аблокаў, ад бясконцасьці суцішэньня і прымірэньня, — хапалася зрокам за кожную рыску, бо ведала: няма таго, што будзе.

Страты мае, вам без мяне — абысьціся, а майму адзінаму сьветаадчуваньню — не. Хтосьці прыгадаў вар'яцтва? Не адкажу. Лепш глядзіце на страчаны адказ.

## SARABANDA

Калі я ўбачыла таго Анёла, нешта ўва мне пахіснулася. Ён — у сваёй абмежаванай прасторы — быў такі празрысты і сьвяціўся знутры, нібы недзе там, у сярэдзіне яго сутнасьці, у цэнтры воблака, мільгацела маленькая сьвечка. Я думаю, гэта ўсё ж такі быў не сам Анёл, а яго цень, амаль такі, які застаўся на той час і ад мяне.

Не ведаю, адкуль Ён і чый Ён. Ды мне і не трэба было ведаць. Кожны раз, завітваючы ў той куточак пад лесьвіцай у цэнтры горада, я міжволі мінала ўсё, што саграvала як цеплыня чалавечых рук: камяні, лазу... дрэва, што ў сваім незьлічоным жыцьці прыстасавалася да чалавечых абставін... Зрокам не чапляла сутнасьці гэтага звыклага хатняга насельніцтва, мінала... і апыналася ля Яго, маючага, відаць, дачыненьне да храма на ўскрайку прысыпанага нечым мокрым, першым, бялюткім поля...

І тады замыкалася кола таемнасьці. І тады я страчвала свае рэальныя акрэсьленьні. І тады я стаяла там, на полі, і побач хістаўся бадзяга-вецер, кідаючы мне ў твар ільдзяную салёную ваду... Тады я бачыла сябе толькі ў вачах майго Анёла: Ён таксама жыў зрокам.

Той, хто набыў Анёла, прыдбаў не яго, а колькі абмежаванай прасторы. У клетцы было пуста. Анёл каштаваў больш за мільён.

## INTERLUDIA

Таемная сувязь позіркаў — хвароба з пязьменным болем. Невядомы сьмех, невядомы выклік, невядомы сорам...

Бязьлітаснае полымя: зьбірае ўсе маленьні агню па рэштках, па нітцы з кожнага позірку — і пакідае цябе ў несуцешнай роспачы. Гэта тая мяжа, за якой блытаюцца сляды.

## ПАЎЗА

Не трэба даваць адзнаку. Некалькі імгненьняў жыцьця ў чысьціні зроку каштуюць усяго Разуменьня.

Паўзы гучаць, набываючы формы позіркаў.

Гэта ўжо не тое, што было зафіксавана ў сімволіцы знакаў, і яшчэ не тое, што ты складзеш у адказ. Гэта — тваё чыстае Пераўтварэньне, чыстае Веданьне, — Зрок.

## FINAL

Маўклівая споведзь. Мы стаім моўчкі, паміж намі толькі ўсмешкі.

Ты ў мяне запытаўся: ці адчуваю, ці разумею цёплыя хвалі твайго погляду? Так хацелася адчуць... Адказала: не. Зьдзівіўся і пакрыўдзіўся.

Не крыўдуй. Мы баімся ўласных позіркаў, баімся і хвалюемся: а ці зразумеем, ці не будзе памылкі... Ды калі б нават і глядзелі, як адно, ці стала б лягчэй? Пераж ытая магчымасьць адмаўляе падзею.

Ты адмовіўся першым і, напэўна, назаўжды. Даруй, што той чэрвеньскі позірк быў апошні, што з хлусьні нарадзілася каханьне, што я так і не навучылася спавядацца словамі, вуснамі, дыханьнем... толькі поглядам.

У цябе таксама кепскі зрок.

## Вераніка СТРАЛЬЦОВА

# СОН

*I*

Калі сон сцінае павекі і даўкім пульхным сувоем кладзецца на плечы — я прачынаюся.

І прачнуўшыся, адчуваю, якая лёгкая ў мяне хада, якім суладдзем і злагадай прасякнута наваколле, якім святлом расхінаецца далячынь і як доўга можна ісці, не зведаўшы стомы.

Але — стамляюся.

І стаміўшыся — засынаю.

І часта бачу ўсё той жа сон...



*2*

Ландшафт, падобны да марсіянскага пейзажу. Божа, як я трапіла сюды?

Босымі нагамі ступаю па спечаных камянях. Мройлівае чырвонае паветра бруіцца па твары і абпякае скуру. Цяжка дыхаць. Шукаю ваду. Іду туды, дзе, наталіўшы пракаветную смагу, адчуў прынадную мелодыю жыцця ненароджаны пакуль сцярожкі зялёны парастак.

Вакол — ані каліўца.

Ноч пераймае дзень.

Пранізлівы нерухомы холад працінае наскрозь. Пад нагамі — чорная скамянелая бездань. Застыглае паветра сціскае грудзі. Цяжка дыхаць. Шукаю агонь. Іду туды, дзе абпалены раптоўнай згадкай пра вусцішны цуд жыцця, набрынялы прагай наканаванага здзяйснення, пакутліва вызваляе ад улады небыцця сваю пакуль няспраўджаную існасць гонкі зялёны парастак.

Вакол — ані каліўца.

Спяшаюся, бо ведаю: там, дзе растуляецца прастора, дзе агонь яднаецца з вадою, дзе быццё выходзіць з небыцця — чакае мяне Свята Зялёнага Парастка.

## Сяргей ПАТАРАНСКІ

# НЕПРЫЗНАНЫ АВАНГАРД



### ВЕРШ ПРА КАХАНЬНЕ

*Сё я прыйду сю*
*сюсю прыясю.*
*Т тм сm*
*і мп чк.*

*Пдбг я да т*
*і пцлв,*
*і яшчэ скз,*
*што цб кх.*

*Т скз тс,*
*што і т кх,*
*як і я скз,*
*што цб кх.*

*Т і я кх.*
*Я і т лб.*
*Ты і я мг —*
*вельмі хораша.*

* * *

*плюхап*
*ён быў аднойчы*
*крышма нізавіла,*
*сюкэйда апарочы*
*мяжуючы пульса,*
*хіжа вінашыгойчы*
*обужа жа*
*ня ма,*
*ні гуку,*
*ні чагойчы,*
*ні дрэшаў,*
*ні адзін...*
*усё нібы аднойчы —*
*плюхай нізавіла.*

* * *

*Іёна ятра*
*шудана шуа*
*гівідра матра*
*будзіла кура*
*башэра мэра*
*міёры оры*
*лабама мама*
*іёна кана*
*канана нана*
*нанана нана*
*нанана нана*
*нанана нана*
*яршма шамана*
*шалом акана*
*Наташа Вося*
*іёра тана*
*шудана шуа*
*будзіла кура.*



## Ян ЗБАЖЫНА

# ПЫЛ САРКАФАГАЎ



### РАКАКО

*каралі і магнаты*
*літургіі балі*
*ад пампезных санатаў*
*люструюцца залы*
*святлацень арабескаў*
*ажур гарэльефнасць*
*каларыт еўрапейскасць*
*дэкор-эфемернасць*
*балаўніцтва балетніц*
*машнары з узораў*
*з атуманеных лесвіц*
*меандр ілюзору*
*як адлітыя з медзі*
*разносяць паненкі*
*дэкальтэ дыяменты*
*парфуму сукенкі*
*Я ў люкарню дзіўлюся*
*пуці срэбракрылым*
*медальёнам і люстрам*
*цудоўным шматлікім*
*акратэрыям аркам*
*пано габеленам*
*капітэлям аканту*
*разеткам філенкам*
*праз партал да пілонаў*
*шмыгаю таемна*
*і пад стольлю плафонаў*
*згалцелы прыемна*
*прыгажуню шукаю*
*з вачыма як хоры*
*і знайшоўшы сціскаю*
*мармуравы холад*
*кампазіцый прапорцый*
*спакусы праходзяць*
*маскаронамі порцік*
*глядзіць на стагоддзі*

### ХОКУ

*Смерць вылучае*
*Кожнаму асаблівы*
*Колер вясёлкі*

* * *

*Эпітафія:*
*Малады нябожчык смерць*
*Упрыгожвае.*

* * *

*Трачу прытомнасць*
*Цалаваць каханку, як*
*Падаючы снег.*

* * *

*Кропка на сцяне*
*Утаймоўвае думкі.*
*Разгядаю іх.*

* * *

*Дождж ліў як з вядра.*
*Парасону ўсё роўна.*
*Ён спаў на шафе.*

### ТАНКА

*Нябожчык едзе*
*На могілкі. Воз трасе*
*Па калдобінах.*
*Незмазаныя колы*
*Скуголлем рэжуць вушы.*

* * *

*Дзве ружы ў вазе*
*Пакахалі васілёк.*
*Зайздрошчу яму*
*І выплюхваю ваду.*
*Засмяглыя завянуць!*

— "спасьцігаць нашым розумам", а значыць — "мець зьвесткі пра што-кольвек". Сучасная ж норма мае абодвыя словы як раўназначныя, а сучасны узус прызнае бадай толькі апошняе слова. І норма і узус склаліся пад уплывам расейскае мовы, дзе гэткія ж лексемы розьняцца не семантычна, а стылёва. Чаму ў нас звычаёвым стала слова **ведаць**? Бо ў расейцаў усё наадварот. Але гэтакі узус не адлюстроўвае беларускі семантычны фэномен, а зьяўляе перакручаны расейскі. Сэмантыка, зазначу, як існасьць мовы важнейшая за лексіку. В.Ластоўскі, у адрозьненьне ад сучасных лексіколагаў, рэканструюе беларускія значэньні **знаць** і **ведаць** і норму ўстанаўляе не на падставе маўленчых хістаньняў, а на падставе адметнасьцяў мовы, якія ён прасочвае ў дыялектах і пісьмовай традыцыі. Адкрыцьцё В.Ластоўскага замацоўвае Я.Станкевіч. Зрэшты, арганічнае веданьне мовы дазваляе схапляць фэномен інтуіцыйна.

У мовах, якія разьвіваюцца натуральна, без вонкавых чужаземных перакажэньняў, фэномен і узус палягаюць у "дыялектычнай тоеснасьці", як два бакі аднаго медаля. І, наадварот, мовы падпалыя няспыннаму ўціску, носьбіты якіх на працягу некалькіх пакаленьняў білінгвы, — такія мовы вымагаюць як адзінага ратунку вылучэньня фэномену. Фэномен ня адмаўляе працы з картатэкаю, але часткова зьмяняе яе. Праявы маўленьня, каб выдавацца за зьявы мовы, мусяць вывучацца не толькі колькаснымі, індукцыйнымі метадамі, але і якаснымі, шляхам лінгвістычнае дэдукцыі, даўняцьця мадэляў.

Паспрабуем сугадаць поўны зьмест расейскага дзеяслова **решить**, відаць, ні ў воднай мове яго адпаведнікі ня маюць гэтулькі адценьняў, возьмем тут толькі яго "ўласныя" значэньні, загадзя выстаўляўшы "няўласныя" ("кончыць" і "забіць"). Паводле Ожэгава гэтых тры: 1) "обдумав придти к какому-либо выводу"; 2) "вынести постановление о чем-нибудь"; 3) " производя вычисления найти искомое".

Да трэцяга пункту адразу ж і пэўна тарнуецца дзеяслоў **разьвязаць**, да двух астатніх адпаведна — **надумаць** і **пастанавіць**, але бяда ў тым, што і другі і першы пункты ўзаемазамяняльныя. Іх можна выразіць і адным дзеясловам **пастанавіць**. Заразом застаецца няясным: як перакладаць фразеалагізм **решить судьбу**. Няўжо не абысьціся бяз **вырашыць**? Ды і ці такі ўжо гэта чысты фразеалагізм? У тым жа згадзе можна "решить" што заўгодна: жыцьцё, праект. А льга і зусім без дапаўненьня будаваць фразу. Сінонімамі да **решить** тут зьяўляцімуцца дзеясловы **определить** і **предопределить**. Распадзел Ожэгава, дастатковы для расейскага тлумачальнага слоўніка, пры перакладзе на іншую мову хібіць. Яму не стае абстрагаванасьці. У існасьці кожнае з трох азначэньняў зьяўляе ступень завершанасьці дзеяньня, але акрамя ступені завершанасьці ў азначэньнях Ожэгава ці не важнейшую ролю адыгрывае тэматычны элемент, або спосаб выкананьня аперацыі.

Дзеля практычных мэтаў я прапаную "чысты", зупоўна абстрагаваны распадзел слова **решить**: 1) завершыць разумовую, або дзейнасную аперацыю; 2) правесьці суд над вынікамі чыннасьці, спраўдзіць іх; 3) зьявіць вынікі чыннасьці як вытвар волі, розуму, развагі або сумоўя. Пераказаўшы тры гэтыя пункты па-расейску з назоўнікам **решение**, мы атрымаем наступную вельмі яскравую градацыю: 1)"найти решение"; 2) "вынести решение"; 3) "принять решение". Адылі па-расейску можна сказаць яшчэ карацей: 1) **разрешить**; 2) **предрешить**; 3) **порешить** — прыстаўкі да дзеяслова **решить** тут не дадаюць значэньняў, а толькі ў кожным асобным выпадку праяўляюць іх. Часьцей за ўсё гэтая трыяда выражаецца як дыяда: **разьвязаць** і **пастанавіць**, што па-рознаму праявілася і ў Ожэгава, і ў Станкевіча. Але без сярэдняга элемента яна ня дзейнічае.

Слова **выракаваць** зьяўляе вельмі вузкую праслойку разгляданае градацыі, з часоў Статута яго пасьпелі амаль забыць. Не адрадзілі дзеяслова ані ў XIX ані ў XX стагоддзі, а бяз выракаваць занепала, стаўшыся няпоўнаю, уся мадэль беларускіх адпаведнікаў. Але слова жыло і жыве, як вышэй паказана. Вельмі цікава, што В.Ластоўскі, ілюструючы прымаўкаю "чалавек мяркуе, а Бог выракуе" ("человек предполагает, а Бог располагает"; homo proponit, sed Deus disponit; der Mensch denkt, Got lenkt); слова **мяркуе**, зусім забыўся (ці не зьвярнуў увагі) на другую частку — **выракуе**. Яна па-расейску магла б гучаць і **решает** і **предопределяет**. Увогуле ж гэты дзеяслоў некалі меў шмат значэньняў і адно зь іх — "судить", якое зусім нядаўна зноў ажыло ў часопісе "Крыніца" дзякуючы І.Чароту (гл.вышэй).

Яшчэ цікавейшы вельмі распаўсюджаны ў старабеларускай мове назоўнік **вырак**. Ён цалком адпавядае нямецкаму слову das Urteil, якому ў расейскай мове адгукаюцца тры тэрміны: **решение**, **приговор**, **суждение**. Калі я даўней у якасьці апошняга паспрабаваў выснаваць зь сістэмы беларускае мовы **выказ** (гл.: "Культура", 1994, 14 сьнежня) і параўноўваў яго як з **выракам**, так і зь нямецкім словам, то нават ня думаў (як на злосьць у мяне не было менавіта 6-га тома "Гістарычнага слоўніка"), што іду якраз шляхам мовы і ўзапраўды калькую яе жывыя мадэлі, б'юся ў адчыненыя дзьверы. Дык жа пагатоў прыемна. Бо праца з моваю незвычайная творчасьць, яна вымагае як найменш "уласнага" і як найболыш "моўнага".

Што мне сказаць цяпер? **Вырак** ці **выказ**? Гэта ўжо сьпецыялістам меркаваць. **Выказ** часьцейшы ад пабочных значэньняў, але можа і занадта дысталяваны. **Вырак** мае традыцыю, вельмі вялікую. І яшчэ адно, ці не сама важнае: апошнім часам у Менску выйшаў цудоўны падручнік "Логика", аўтары кнігі цьвердзяць, што **вырак** далёка не заўсёды можа быць атаясамлены з **выказваньнем**, што "вырак уяўляе сабою такі разумовы чын, у якім ня проста што-кольвек сьцьвярджаецца ці адмаўляецца і якое можа быць праўдзівым ці аблудным, але і выказваецца асабовае стаўленьне да зьместу выказанай думкі. Заразом сам гэты чын зьнітаваны з такімі станамі сьведамасьці, як перакананасьць, сумнеў, нявера і да т.п. "Калі праўда за аўтарамі — дык хутчэй **вырак** можа быць тэрмінам логікі. Але ў мяне ёсьць яшчэ домнеў: ці не самая ўнутраная форма слова здольная ўплываць, падсьведама, на разуменьне, а то і на зьмест паняткаў. Магчыма, сам характар логікі залежыць ад таго, у якой мове яна цягам доўгага часу ўспрымаецца і апісваецца. Можа сама мнагазначнасьць **суждения** даўняла дадатковыя згады? Урэшце, гэта асобная праблема супрацьпастаўленьня формы і зьместу знака.

Але вернемся да трыяды **решить**. Усе астатнія яе часьціны: **надумаць**, **наважыць**, **зьмеркаваць** і да т.п. — гэта тэматычныя адмены слова **пастанавіць**. Менавіта яны рабілі дваякім распадзел Ожэгава. Цяпер апошняе наша заданьне: сістэматызаваць словы, як бы яны выглядалі ў расейска-беларускім слоўніку. Не для ўсіх патрэбных тут слоў мне ўдалося адшукаць кантэксты. Прыкладам, такі шматзначны прыметнік, як **станавіты**, зьяўлены ў І.Насовіча і ў акадэмічным Тлумачальным слоўніку, але сёньня добра-такі забыты, падаецца нават шмат ўдалейшым за слова **станаўкі**. Вельмі далікатнае адценьне панятку "пастанова" выражае назоўнік **надум**, знойдзены Бялькевічам. Ды і самыя **пастанова**, **пастанавіць** пры аднолькавым дэнатаце маюць іншую канатацыю ад расейскага слова **постановление**, прасьцей кажучы, ад іх ня вее канцэлярскасьцю — да гэтага таксама трэба звыкнуць. Вартыя ўвагі дзеясловы **адважыць** і **канацца**, апошні ў Я. Станкевіча зьясьняецца "решать жеребьёвкой". Астатнія ж часьціны сістэмы, мяркую, агадваюцца адпаведнымі словаўтваральнымі мадэлямі:

**решить** 1.*(найти решение, разрешить)* разьвязаць; 2. *(вынести решение, предрешить)* выракаваць; 3. *(принять волевое решение)* пастанавіць; *(принять осторожное решение)* наважыць, важыцца; *(принять смелое решение)* адважыць; *(принять умственное решение)* надумаць, надумацца; *(принять внезапное умственное решение)* здумаць; *(принять рассудочное решение)* зьмеркаваць; *(принять совместное решение)* пагадзіць; *(принять приблизительное решение)* намеркаваць; 4. *(убить)* прост. кончыць, скончыць; ~ **судьбу** выракаваць лёс.

**решать** 1. *(разрешать)* разьвязваць; 2. *(предрешать)* выракаваць; 3. ***(постановлять)*** пастанаўляць; *(сметь)* важыць; *(думать)* думаць; *(рассчитывать, соображать)* меркаваць; *(решать совместно)* гадзіць; *(решать жеребьёвкой)* канацца; 4. *(убивать)* прост. канчаць, забіваць.

**решение** *с*.1. *(ответ к задаче)* разьвязак м.; 2. *(приговор)* вырак м.; 3. *(постановление)* пастанова ж., *(мысленное решение)* надум м.; 4. *(вывод)* выснова ж.; 5. *(действие)* разьвязаньне *с.*; *(незак.)* разьвязваньне *с.*; выракаваньне *с.*; пастанаўляньне *с.*; наважваньне *с.*; адважваньне *с.*; думаньне *с.*; меркаваньне *с.*; гаджэньне *с.*

**решительный** 1. *(безусловный)* станавіты, станаўкі; 2. *(смелый)* наважны, адважны; 3. (решающий) выракавальны; 4. *(окончательный)* канчатковы; 5. *(несомненный)* пэўны, чысты.

Як бачым, далёка ня ўсе з выпісаных мною слоў трапілі ў "перакладны" разьдзел. Скажам, на месца дзеяслова **выракаваць** мог бы стаць дзеяслоў **прысудзіць**, або — **наканаваць** ці **вызначыць**, але патрэбную функцыю найлепш і найпаўней выконвае першы. Па-за ўвагаю застаўся і дыялектны варыянт да **надумаць—нагануць** (ад **гадаць** "думаць"). Або — падобны ж у У.Галубка: "Слова, другое, старая згадала ("решила" — **Ю.П.**) пусьціць яе напач, гледзячы з больлю на яе лахманы". (**Згадваць** у беларускай мове часьцей абазначае "смыслить, соображать", а значэньне "ўспамінаць" перанятае з украінскае мовы.) Што да дзеяслова **пагадзіць**, дык яго сучасных ужываньняў з значэньнем "решить" я не сустрэў, усё ж мне ён уяўляецца надзвычай патрэбным узглядам новае гуманітарнае парадыгмы, зарыентаванае на дыялагізм, дзе сам чын пастанаўляньня пераносіцца з апрычонае сьведамасьці ў сумоўе. Слова **задумаць**

*(Заканчэньне на стар. 12)*

Віктар ШНІП



# СМЕРЦЬ

***1***
*яна жыве ў цемры*
*забіраючы нас у цемру*
*яна цемра якая жыве*
*яна ноч перад нараджэннем*
*яна нараджэнне*
*і я іду ў цемру*
*ведаючы што яна наперадзе*
*куды б я ні ішоў*

***2***
*яна агонь які спальвае цемру*
*які апальвае зямлю і неба*
*які сам згарае*
*каб згараючы ажыць*
*і я гляджу на агонь*
*як на д'ябла*

***3***
*яна вада якая забівае агонь*
*якая дае жыццё*
*каб яго забраць*
*яна можа ператварыцца ў лёд*
*як чалавек у ваўкалака*
*яна можа быць туманам*
*каб прысутнічаць на зямлі і над*
*і я ідучы праз туман*
*ведаю што іду праз яе*

***4***
*яна вецер які разганяе туман*
*вецер які ўздымаючы хвалі*
*разбівае іх аб бераг*
*вецер які раздзімае агонь*
*і сам захлынаецца ў дыме*
*і я спрабуючы раскласці вогнішча*
*злуюся на вецер*
*які тушыць мае запалкі*

***5***
*яна гэта дым*
*які ўздымаючыся ў неба*
*як ведзьміны валасы*
*хавае ад мяне сонца*
*яна дым Айчыны*
*які заўсёды салодкі*
*а салодкай часцей бывае атрута*

***6***
*яна гэта гостры меч*
*якім не толькі рассякаюць вузлы*
*меч які заўсёды ўва мне*
*меч з якога пачынаецца цемра*
*якую размывае вада*
*у якой захлынуўся агонь*
*а я ідучы праз туман*
*іду на пах дыму*

***7***
*яна гэта дзікі звер*
*які сочыць за кожным маім рухам*
*які есць сам сябе*
*звер якога можна прыручыць*
*і стаць самому зверам*
***8***
*яна гэта я*

***9.1. Цемра***
*цемра гэта не ноч*
*гэта альфа і амега дня*
*гэта сутнасць у якой няма сэнсу*
*гэта глыбіня ў якой няма мяжы*
*цемра заўсёды пільнуе нас*
*і як сабака віжуе за намі*
*пранікаючы ў нас як атрута*
*яе мы баімся*
*як уласнага ценю*
*які ўслед за намі валачэ нашы галовы*
*напоўненыя цемрай*
*цемра гэта кроў д'ябла*
*у якой мы як матылі праз агонь*
*пралятаем праз сэрца цемры*
*праз Смерць*
*цемра гэта вечнасць*
*у якой нам быць*
*але быць толькі цемрай*
*але як альфа і амега дня*

***10.2. Агонь***
*там дзе агонь ёсць сэнс*
*у дні і ў начы*
*але там дзе агонь*
*агонь пазначае сваё*
*ён ведае ён валодае*
*ён адкідвае ад сябе цень*
*які адразу стаўшы дымам*
*набывае самастойнасць*
*агонь гэта вір цяпла*
*у якім патанае ўсё*
*агонь гэта язык цмока*
*дух якога мы выклікаем*
*не разумеючы што мы робім*
*распальваючы вогнішча*

***11.3. Вада***
*вада была напачатку*
*калі была вада*
*і быў дзень і была ноч*
*і Богу было Богава*
*і д'яблу было д'яблава*
*і я быў вадой*
*і падалі зоркі ў хвалі*
*і плыў карабель па вадзе*
*у пошуках вады*

***12.4. Вецер***
*калі заціхне вецер*
*тады прыйдзе канец свету*
*і вецер б'ецца аб неба*
*як матыль аб шкло саркафага*
*у якім узнікла жыццё*

***13.5. Дым***
*я гэта толькі дым*
*ад факелаў*
*якія асвятлялі шлях на Галгофу*

***14.6. Меч***
*ніхто не дасць мне ў рукі меч*
*яго няма*
*але ён існуе*
*як існую я*

***15.7. Звер***
*бойцеся звера*
*не таго што ходзіць па лесе*
*а таго што ў вас*
*і нельга забіць звера*
*не забіўшы сябе*
***16.8.***
*я гэта смерць*










У гэтым выпуску «ЗНО» — графіка Барыса ЦІТОВІЧА.

# ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ, АБО ЯК РАЗЬВЯЗАЦЬ ПАСТАНОВУ?

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.8-9)*

— блізкае да **надумаць**, але яно перадае толькі пабочныя значэньні **решить**. Мяркую, сінонімаў магло быць яшчэ больш, менавіта ў іх магчымасьці і палягае існасьць беларускае мадэлі. Я ўжо адзначаў: адметнасьць расейскага слова **решить** у яго здольнасьці награмаджваць семантыку, яно зьяўляе адмысловую "закрытую" мадэль. Мадэль беларуская — прынцыпова "адкрытая": кожнае новае значэньне, кожны згад яна выражае новым словам. У грунце рэчы гэтых слоў можа зьявіцца бясконцае мноства, ведама, з умоваю, што ўсе яны будуць беларускія. Дзеяслоў жа **вырашыць** ня толькі не беларускі. Тое было б паўбяды. Галоўнае — ён разбурае адметную беларускую мадэль сваім сінкрэтызмам. Калі можна сказаць **вырашыць**, то навошта ўжываць усе астатнія лексемы з усімі іх адценьнямі? У выніку ж, выходзіць, што гэткі "сінонім" не збагачвае мову, а істотна зьбядняе.

Рэч у тым, што некаторыя элементы, занесеныя ў сістэму звонку, маюць здольнасьць перакажаць яе, цягнучы за сабой шлейф неўласьцівых ёй законаў. Можна блытаць лексіку, але нельга разам зь ёю блытаць семантычныя мадэлі, асабліва калі яны сувіта супрацьлеглыя. У 20-я гады многія беларусы яшчэ спадзяваліся, што ў мове ад лішняга сіноніма нічога не паменее. Але практыка давяла іншае. З мною цытаваных аўтараў пасьлядоўна не ўжывалі аніякіх "вырашэньняў" А.Абуховіч, Ф.Багушэвіч, К.Каліноўскі, Стары Улас, У.Галубок, Г.Леўчык, К.Сваяк, Л.Гмырак, Ант.Адамовіч, непасьлядоўнасьць назіраецца пераважна ў пісьменьнікаў пасьлейшага часу, такіх, як П.Піятуховіч, І.Абдзіраловіч, А.Бабарэка, У.Жылка, Я.Пятроўскі, бальшыня зь іх прайшлі "расейскую навуку". Цікавая ў гэтым дачыненьні пазіцыя В.Ластоўскага: яго тэксты розная пары таксама непасьлядоўныя, яны зьяўляюць страшэнную зьменлівасьць і, відаць, паступовы ўзрост мовазнаўца. Урэшце ж у слоўніку В.Ластоўскага і напаміну няма аб "вырашэньнях". Аднак уся даная мадэль апісваецца там надзвычай няпоўна, урыўкамі, пэўна аўтар толькі пачынаў яе спасьцігаць. Сучасьнікі Ант.Адамовіч і Я.Пятроўскі таксама па-рознаму "разьвязваюць пастанову". Першы зь іх — пурыст (блізкі да Я.Станкевіча), выдатны стыліст, ён розных "вырашэньняў" і на гарматны стрэл не дапускаў. Другі — таксама неблагі філолаг, аднак яго мова — яскравы выпадак непасьлядоўнасьці і зблытанасьці, уласьцівае для 20-х гадоў, хаця ўзглядам нашага спакменя ён ужывае толькі дзеяслоў вырашыць, і годзе.

Вось жа, праз паўстагоддзя досьлед завершаны, мадэлі зблытаныя, беларуская мадэль разбураная ўшчэнт. Відаць, настала пара адкручваць кола. Заразом узьнікае пытаньне: адкуль узялося слова **вырашыць**, калі яго няма ў расейскай мове? Думаю, што з украінскае мовы. Украінцы ж, пэўна, перанялі яго ад чэхаў (не магло быць наадварот). Чэхі маглі скалькаваць зь нямецкага **entscheiden**, а корань пазычыць або беспасярэдне з стараславянскае мовы, або з тае ж расейскае, калі ачышчаліся ад германізмаў. Зрэшты, усё адно: круг замыкаецца. Чэшская мова гістарычна супрацьпастаўленая нямецкай. Беларуская — расейскай, менавіта тут праходзіць нашая "лінія пагрозы асіміляцыі". (Праўда, ня трэба забывацца на польскую ды ўкраінскую стыхіі, але з апошнімі нас яднае адзіны гістарычны кантэкст, адбіты праз моўны хаўрус).

У слове **вырашыць** ёсьць "таямнічая" прыстаўка **вы**. Магчыма, я ўжо казаў, гэта вынік зкалькаваньня чэхамі нямецкага слова **entscheiden**. А калі рэч адбывалася без чэхаў, то **вырашыць** калькуе ўжо знаёмае нам беларускае **выракаваць**. **Вырашыць**, слова-гібрыд, магчыма як ніякае іншае слова ўвасабляе непасьлядоўнасьць, несамастойнасьць, міфічнасьць і камічнасьць беларускае савецкае мовы. Помню, адзін мой таварыш любіў гаварыць "рашыў", а я ўвесь час яго папраўляў: не "рашыў", а "вырашыў". Тады ён зазлаваўся: "А навошта гэтае "вы", хіба яно што дае? Толькі слова даўжэйшым робіцца". І запраўды, калі ёсьць **рашэньне**, ёсьць **рашучы**, то чаму **вырашыць**, а не **рашыць**? **Вы** ў адрозьненьне ад прыставак у словах **разрешить** і **предрешить** нават нічога не праясьняе. **Вырашыць** — гэткая моўная матрошка, можна сказаць, траянскі конь русіфікацыі: дзеяслоў гэты касуе беларускую мадэль, а назоўнік **рашэньне**, у сваю чаргу, касуе слова **вырашыць**. На паверхню выходзіць яскравы русіцызм **рашыць**. Гэта ўжо адбылося ў сучаснай савецкай тэрміналогіі. Уважайма, дакуль на старонках газет панавацімуць **рашэньні**, датуль будуць здавацца лішнімі і несістэмнымі тэрміны **разьвязак** і разьвязаньне.

Нават калі дапусьціць, што мова захавае як status quo сучасную мешаніну — і тады ня ўсе словы ў савецка-беларускай мадэлі здаюцца роўнымі. Чамусьці на ўзроўні інтуіцыі мы лёгка пагаджаемся зь лексемамі **вырашыць** і **рашучы**, але ніяк ня можам да канца прыняць **рашэньне** і **рашыць**. Уся штука ў тым, што два першыя словы структурна розьняцца ад расейскіх адпаведнікаў **решить** і **решительный** і таму ствараюць *ілюзію беларускасьці*. У двух жа апошніх слоў фармальных адзнак для падобнае ілюзіі няма. Найбольш цікавае тут, ізноў, знаёмае нам **вырашыць**, гэта відочны словаўтваральны плеаназм. Збытная прыстаўка **вы** нясе не семантычную, а разрозьнівальную функцыю ўзглядам расейшчыны. Магчыма, яна будзе трываць датуль, дакуль беларуская мова існавацiме ў рэжыме двухмоўя, бо наяўнасьць яе сістэмна не падтрыманая. Прыкладам, у тых жа чэхаў ураўнапраўлены абодвыя варыянты, і з **вы** і бяз **вы**, як у расейцаў **решить** і **разрешить**. Падобныя "пустыя" часьціны і пераструктураваньні — уласьцівасьць так званых умоўных моў, такіх, як адверніцкая гаворка, катрушніцкі лемезень, выцірняцкі гаўрыднік ды іншыя. Дзеля незразумеласьці многія словы ва ўмоўных мовах структурна зьiначваліся: **кувосень** (восень), **танкімны** (тонкі) і г.д. Умоўныя мовы не былі і не маглі быць самастойнымі мовамі. У гэтым не было патрэбы: яны выконвалі ролю прафесійнага жабрацкага (NB!) ці іншага якога жаргону. "Беларускі савецкі лемезень" таксама ні сацыяльна, ні тэлеалагічна (намэтна), ня меў станавіцца моваю, ён рэпрэзентаваў марксісцкую пастанову аб росквіце і зьліцьці нацый пры сацыялізме, а таксама міф пра "роднасьць рускага і беларускага братніх народаў".

У схілку варта сказаць колькі слоў для перасьцярожлівых. Сёньня многія людзі, зацікаўленыя лёсам мовы, высьцерагаюцца ўсякіх пурыстычных акцый — і ў гэтым ёсьць шмат слушнага. Заразом прынята думаць, маўляў, беларусы адзіныя, хто хварэе на пурызм. Дык жа ўсё наадварот, мы адзіныя з усіх калісьці паняволеных народаў, хто ня дбаў і ня дбае пра чысьціню мовы. Менавіта пурыстычны чын, як мяркуюць шмат якія філолагі, увасабляе першы крок "волі да мовы". Увогуле ж наш спакмень якраз паля гае па той бок дылемы. Як ні дзіўна, пры чытаньні мы не прыкмячаем, што без **рашэньня** і **вырашыць** абходзіліся ня толькі вышэй названыя аўтары, але многія і многія іншыя, у тым ліку стваральнікі Статута. Нават Ф.Скарына, які ўсё ж пісаў па-стараславянску, а не па-беларуску, не ўжываў гэтых слоў. З другога боку, калі паглядзець цьвяроза, то ніякіх рэвалюцый у мове я тут не распачынаю, усе прапанаваныя мною словы ў той ці іншай ступені знаёмыя або зразумелыя. Значыць — становішча можа перавярнуцца. Калі сёньня, прыкладам, зьнікнуць з мовы ўсе небеларускія **"вырашэньні"**, то староньні назіральнік, я ўпэўнены ў гэтым, нічога нават не заўважыць, як не заўважаем падобнага мы, чытаючы А.Абуховіча, Ф.Багушэвіча, К.Сваяка, Я.Станкевіча і Ант. Адамовіча. А беларуская мова, відочна, выйграе, наблізіўшыся да свае існасьці. Праўда, самым моўнікам спачатку будзе нязвыкла "думаць па-беларуску", аднак без намаганьняў не бывe "волі да мовы".



Рада "ЗНО": Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч, Валерка Булгакаў, Сяргей Мінскевіч.

*Тэксты друкуюцца паводле аўтарскага правапісу.*

КНІГАРНЯ

# ГАНАРОВЫ ПРАФЕСАР БДУ



Беларуская літаратура ў Чэхіі мае сталыя традыцыі перакладу і папулярызацыі. У пасляваенны час сфарміравалася група літаратараў, якія набліжалі творы нашай літаратуры да чэшскага чытача. Адным з найбольш аўтарытэтных перакладчыкаў даследчыкі слушна называюць Вацлава Жыдліцкага, які заўсёды імкнецца перакладаць непасрэдна і выключна з беларускага арыгінала, а не з рускіх адаптацый.

У адным з артыкулаў, прысвечаных Максіму Багдановічу, В.Жыдліцкі, падкрэсліваючы "ўсвядомлены артыстызм паэта", сцвярджае, што беларуская мова "адчувае сябе добра і ў метрах Петраркі і П.Верлена". Чытач можа пераканацца, што цудоўна гучаць па-чэшску перакладзеныя В.Жыдліцкім раманы і аповесці У.Караткевіча, творы Я.Брыля, В.Быкава, І.Шамякіна, К.Чорнага, А.Карпюка, І.Пташнікава. Дзякуючы намаганням В.Жыдліцкага, Чэхія пазнаёмілася з дакументальнай аповесцю А.Адамовіча, Я.Брыля і У.Калесніка "Я з вогненнай вёскі..."

У асобе В.Жыдліцкага выяўляецца прынцыповы, глыбока дасведчаны даследчык. Ён пільна сочыць за развіццём беларуска-чэшскіх сувязяў, сам бярэ актыўны ўдзел у гэтай важнай справе, пра што сведчыць яго манаграфія "Украінская і беларуская літаратура ў чэшскіх перакладах", якая вызначаецца тэарэтычнай заглыбленасцю, багаццем прааналізаванага матэрыялу. Міні-энцыклапедыямі можна назваць падрыхтаваныя В.Жыдліцкім "Малы слоўнік савецкіх пісьменнікаў" (т.2, "Украінскія і беларускія пісьменнікі"), "Даследаванне па гісторыі чэшска-беларускай супольнасці". Руплівы даследчык з'яўляецца аўтарам "Кароткага нарыса гісторыі беларускай літаратуры", шматлікіх эсэ, рэцэнзій, навукова-папулярных артыкулаў. Ён прымае актыўны ўдзел у навуковых канферэнцыях, чытае лекцыі па пытаннях беларускай і ўкраінскай літаратур у Карлавым універсітэце ў Празе.

В.Жыдліцкі працуе без кідкай сенсацыйнасці, без разліку на яркі і шумны поспех, але затое сур'ёзна і ўдумліва, з той прафесійнай грунтоўнасцю, якая забяспечвае яго лепшым даследаванням добрую трываласць. Ён шукае і знаходзіць у гісторыі Беларусі і ў яе літаратуры такіх асоб, якія найбольш яскрава выяўляюць істотныя рысы беларускага нацыянальнага светапогляду.

Нядаўна, у дзень 65-годдзя В.Жыдліцкага, на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта адбылася прысвечаная яму вечарына. Пра яго дзейнасць распавялі Я.Брыль, С.Панізьнік, І.Шаблоўская, В.Рагойша. Выступоўцы адзначылі, што пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры ў Чэхіі, а таксама беларуска-чэшскіх сувязяў цяпер, на жаль, амаль не закранаюцца даследчыкамі. Але дзякуючы В.Жыдліцкаму, чэшская літаратурная крытыка мае даволі цэласны погляд на беларускую літаратуру як інтэгральную частку еўрапейскай культурнай з'явы. Вобраз нашай літаратуры, якой яе бачыць Вацлаў Жыдліцкі, у значнай ступені застаецца меркай яе ацэнак у чэшскай крытыцы.

Рашэннем Вучонай рады Беларускага дзяржаўнага універсітэта В.Жыдліцкаму было нададзена званне Ганаровага прафесара БДУ.

**Георгій ЧАХОЎСКІ,**
**студэнт БДУ.**

*На здымку: пісьменніца Вольга Іпатава і Вацлаў Жыдліцкі.*

**Фота Ягора ФЯДЗЮШЫНА**

# "КРОНАН" ПАЯДНОЎВАЕ ЧАСЫ

У гэтым годзе споўнілася 500 гадоў з дня надання гораду Гродна Магдэбургскага права. Наш карэспандэнт сустрэўся з метадыстам першага гарадскога ліцэя Аляксандрам Госцевым, які з'яўляецца адным з аўтараў цікавага выдання кнігі "Кронан" (Летапіс горада на Нёмане 1116 — 1990 гг.).

**— На вокладцы Вашага зборніка энергетычна даволі моцная назва...**

— Справа ў тым, што рака, на якой стаіць наш горад, на картах сярэдневечча пазначана як "Кронан". Такім чынам, гэта найменне меў у сярэдневеччы Нёман. Гэта назва сугучна і са старажытным міфалагічным богам часу Хронасам і з храналогіяй, якую мы ў зборніку правялі разам з дацэнтам гарадзенскага універсітэта Вячаславам Шведам. Адчуўшы сімвалічныя спалучэнні — рака Кронан, Храналогія, мы супыніліся на гэтай назве.

**— Кажуць, першапачатковая назва Гародні — Горадзен?**

— Так, Горадзен, а адсюль ідзе ўжо народная назва Горадня. Гародня — гэта ўжо сучасны варыянт. Тут можна спаслацца і на тую ж Зоську Верас, якая на пачатку стагоддзя выкарыстоўвала назву Горадня, толькі ў пазнейшыя часы яна стала выкарыстоўваць назву Гародня. Гародня — перш за ўсё ўстой маста ці прылада для лоўлі рыбы. Этымалагічна да "горада" бліжэй Горадзен. Навуковы рэдактар "Кронана" сцвярджае, што суфікс "-ен" надае назоўніку "горад" неабмежаваную прастору. Горад —умацаванае месца, якое распаўсюджваецца на даволі вялікую прастору. Важна ўлічваць тое, што наш горад быў заснаваны як фарпост, быў абаронцам пэўнай часткі той жа Кіеўскай Русі. А калі надае суфікс "-ня" — гэта ўжо абмежаваная прастора, тое ж, што і "лазня". Такім чынам істотна мяняюцца сэнсы.

**— У Мінску зараз вядуцца самыя розныя спрэчкі наконт надання Гародні Магдэбургскага права, вызначэння дакладнай даты. Часам сам факт ставіцца пад сумніў. З якой нагоды?**

— Што тычыцца даты, то ўсе мясцовыя гісторыкі пагадзіліся, што гэта ў перакладзе на сучасны каляндар — 11 ліпеня 1496 года. Як даследчык гістарычнага мінулага магу пагадзіцца, што яшчэ ніхто не бачыў сапраўднага тэксту прывілея. Можа быць, гэту падставу і выкарыстоўваюць для пэўных сумненняў. Бо для стопрацэнтнай гістарычнай упэўненасці патрэбны арыгінальны дакумент. Мы ж маем толькі пераклады. Я сам працаваў у архіве з перакладзеным тэкстам на польскай мове, які быў зроблены па запыце губернскага кіраўніцтва ў 30-я гады XIX стагоддзя. Вядома ж, што пераклады ствараліся адказнымі людзьмі, падпісваліся бургамістрам горада.

**— "Культура" друкавала ліст горада, адрасаваны старшыні аблвыканкама, у якім прапаноўвалася правесці ўрачыстае святкаванне 500-гадовага юбілею. На жаль, улады Шчучынскага раёна абмежаваліся юбілеем Цёткі.**

— Мяркую, гэта звязана толькі з тым, што зараз створана пагранічная зона. Што тычыцца Магдэбургскага права, то я заўважыў, што Гародня, на маю думку, атрымала яго двойчы. Першае — у Бярэсці ў 1391 годзе надаў Ягайла. Аднак існавала традыцыя, што кожны наступны гаспадар Княства Літоўскага пацвярджаў гэтае права. Гэта зрабілі ўсе, акрамя Вітаўта і Скрыгайлы. Таму Казімір Ягелончык не пацвярджае Магдэбургскае права, а надае яго быццам зноў. А пасля ўжо Аляксандр Ягелончык пашырае гэтыя правы, дадае права будаваць ратушу.

**— "Кронан" рыхтаваўся з дапамогай камп'ютэра. Ці адчуваеце Вы подых "віртуальнасці", неабходнасць камп'ютэрызацыі культурных працэсаў, стварэння адпаведных камп'ютэрных гульняў і г.д.**

— Я прапрацаваў у галіне электронна-вылічальнай тэхнікі дваццаць гадоў, і ў мяне ёсць нейкая адмоўная рэакцыя да камп'ютэрных гульняў. З іншага боку, я адчуваю, што тут не можа быць альтэрнатывы. Каб былі створаны праграмы ці сістэмы, якія б дазволілі займацца камп'ютэрызацыяй культурных працэсаў, то, можа, пэўная частка моладзі зацікавілася б гэтым. Працы многа, проста неабмежаване поле. Глебу тут трэба яшчэ распрацоўваць і распрацоўваць. Напрыклад, па Гародні ўжо зараз маю столькі інфармацыі, што, каб меў камп'ютэр, то пэўна суткамі б сядзеў і складаў базу дадзеных. Рабіў бы розныя праграмы, самыя разнастайныя выкладкі. Тое, што нам удалося зрабіць з Кронанам, — гэта толькі самы знешні слой.

**Лесь ТУР**

# ГАРАДЗЕНСКАЯ ЗНАХОДКА

Цікавы дакумент выяўлены ў гарадзенскім архіве загадчыкам аддзела этнаграфіі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументызацыі і архіўнай справы, кандыдатам філалагічных навук Язэпам Янушкевічам.

З вядомым гісторыкам літаратуры гутарыць наш карэспандэнт Лесь Тур.

**— Спадар Язэп, Вамі знойдзены звесткі пра невядомага раней старэйшага брата Янкі Купалы. Не маглі б распавесці, як адбылося гэта адкрыццё?**

— Большасць маіх знаходак у архіве сведчаць пра тое, што яны бываюць незапланаванымі ці нечакана запланаванымі. Я прыехаў дзеля ўдзелу ў канферэнцыі, прымеркаванай 500-годдзю надання Магдэбургскага права Гародні, але рабіць адну справу мне малавата і, як заўсёды, я хацеў пасядзець у архіве. Два гады таму, шукаючы тут метрыку Вацлава Ластоўскага, я выпадкова трапіў на метрыку нараджэння сястры Янкі Купалы. Было вядома, што была такая сястра Гелена, але калі яна нарадзілася, дакладна не было вядома. І цяпер я хацеў франтальна закінуць сетку, прагледзець усе метрычныя кнігі радашкоўскага касцёла. Там і знайшоў дакладны запіс, што ў сям'і мінскіх мяшчан Дамініка і Бяніды з Валасевічаў у маі месяцы 1881 года нарадзіўся ў Вязынцы сын Мікалай.

**— Якое значэнне гэта адкрыццё можа мець для сучаснага купалазнаўства? Якім мог быць лёс Мікалая?**

— Гэта хутчэй архіўная знаходка, але яе можна адносіць да разраду сенсацыйных. Мы пражывём жыццё, і сонца яшчэ не раз устане, і будуць вынайдзены новыя аўтографы, але каб узяў ды знайшоўся родны брат карыфея нацыянальнага мастацтва і літаратуры — з'ява рэдкая. Для купалазнаўства — гэта пралівае дадатковае святло на трагічную старонку яго жыцця, бо Мікалай, пра якога ні Купала, ні сваякі не гаварылі, відаць, памёр дзіцем. Колькі ён жыў — тры дні, пяць дзён, тыдзень, месяц — невядома. Але можна меркаваць, што жыццё яго было вельмі кароткім.

# НА ЗЛОМЕ ЧАСУ

Кузьма Чорны пісаў: "Чалавек — гэта цэлы свет". Свет непаўторны і цікавы, калі гаворка ідзе пра асоб неардынарных, надзеленых талентам творцы. Іх жыццёвы вопыт, погляд на мінулае і будучыню падштурхоўваюць да роздуму, глыбокага аналізу рэчаіснасці. Размовам з такімі людзьмі — вядомымі пісьменнікамі, літаратуразнаўцамі, фальклarыстамі — прысвечана новая кніга кандыдата філалагічных навук Міколы Мікуліча "На зломе часу", якая ўбачыла свет у выдавецтве "Навука і тэхніка" напрыканцы мінулага года.

Рэдкі жанр кнігі — інтэрв'ю — дазволіў аўтару данесці да чытача жывы голас майстроў нашай літаратуры — Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Сяргея Грахоўскага, Івана Шамякіна, Ніла Гілевіча, Васіля Зуёнка... Суразмоўцы М.Мікуліча разважаюць пра чалавека і грамадска-сацыяльныя пераўтварэнні, "захаванне духоўна-маральных набыткаў народа", праблемы нацыянальнага літаратурна-мастацкага развіцця, яго дасягненні і страты.

Нягледзячы на вялікую колькасць закранутых праблем, можна вылучыць два асноўныя моманты гаворак. М.Мікуліч мэтанакіравана цікавіцца жыццём былой Заходняй Беларусі, тагачасным літаратурна-творчым працэсам, лёсам пісьменнікаў. Успаміны мастакоў слова пра Рыгора Шырму, Ігната Дварчаніна, Язэпа Драздовіча, Валянціна Таўлая, Наталлю Арсенневу, Алеся Салагуба, Піліпа Пестрака з'яўляюцца жывой старонкай гісторыі нацыянальнай культуры.

Адным з цэнтральных момантаў гутарак стала творчасць народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, праз прызму якой пісьменнікі ацэньваюць свае набыткі і страты ў літаратуры. У кнізе акрэсліваецца праблема ўплыву Янкі Купалы на творчы лёс заходнебеларускіх паэтаў, да вырашэння якой імкнецца аўтар. Асоба вялікага песняра ва ўспамінах яго сучаснікаў і калег па пяры з'яўляецца ўвасабленнем жыццёвай мудрасці і духоўнай прыгажосці чалавека.

Каштоўнасць сабранага М.Мікулічам матэрыялу не выклікае сумнення. Але героі кнігі ўяўляюць цікавасць для чытача перш за ўсё як пісьменнікі, якія дасканала валодаюць словам, тым больш што іменна так і прадстаўляе іх аўтар у сваіх лаканічных нататках. Сярод іншых варта вылучыць гутаркі з Нілам Гілевічам, Васілём Зуёнкам і Іванам Шамякіным, у якіх падымаюцца праблемы літаратурнай творчасці. Суразмоўцы аўтара кнігі выказваюць свае думкі пра мінулае і будучыню беларускай літаратуры, перспектывы яе развіцця і дзень сённяшні, вельмі складаны і супярэчлівы, калі над таленавітым чалавекам навісае пагроза ператварэння ў "маральную пачвару". Пісьменнікі чытаюць і аналізуюць творы, якія, на іх думку, заслугоўваюць увагі (М.Танк, В.Зуёнак і інш.), дзеляцца сакрэтам свайго майстэрства, разважаючы адносна тэматыкі і жанравых асаблівасцей твораў і г.д.

Несумненна, найбольшай увагі заслугоўвае артыкул, прысвечаны паэтычнаму слову Максіма Танка, да якога ў аўтара даўняя прыхільнасць і ўвага. "Глыбока прачулы аўтарскі лірызм і парадаксальнасць асацыятыўна-метафарычнага мыслення, раскалыханасць верлібра — шырыня мастацка-творчага дыяпазону паэта ўражвае", — піша М.Мікуліч. Аўтар кнігі знаёміць чытача з самабытнай мастацка-філасофскай тэорыяй пісьменніка, раскрывае асаблівасці яго творчага шляху, падмацоўвае свае думкі разважаннямі самога М.Танка. Раздзел вылучаецца не толькі зместам, падкрэслена глыбокім, важкім, але і будовай: непасрэдны дыялог з паэтам змешчаны ў "літаратурна-крытычную рамку", служыць яе неабходным элементам, удалай ілюстрацыяй.

Кожны з дзесяці раздзелаў кнігі "На зломе часу" мае на мэце дакладна і ў той жа час арыгінальна перадаць характар і ўнутраны свет героя. Гэтаму, акрамя ўсяго, садзейнічаюць іх трапныя назвы, а таксама ўдала падабраныя эпіграфы з твораў саміх пісьменнікаў, што дапамагае акрэсліць тэму будучай размовы.

Думаецца, знаёмства з новай кнігай Міколы Мікуліча будзе цікавым і карысным для чытача — незалежна ад яго ўзросту і профілю працоўнай дзейнасці.

**Інэса БАЎТРЭЛЬ,**
**аспірантка Інстытута літаратуры імя Я.Купалы АН Беларусі.**



Самыя любімыя песні для жыхароў Давыд-Гарадка Васіля Мікалаевіча і Любові Аляксееўны Дранько-Майсюкоў (на здымку), мабыць, тыя, што піша іх адзіны сын Леанід. А яны самі, гэтыя простыя сяляне, вядомыя хіба тым, што ён прапрацаваў усё жыццё будаўніком, яна — паляводам, і абодва зараз на пенсіі. Але хто скажа, што гэта — не чалавечае шчасце?

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БелТА**

# ПАСОЛЬСКІ КЛУБ

# НЕ ТОЛЬКІ ВІЗАВЫ РЭЖЫМ...



***Расказвае віцэ-консул Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь пан Арманд КРУЗЭ:***

*— Адразу скажу, што Консульства Латвіі ў горадзе Віцебску, якое было адкрыта 24 сакавіка 1994 года, імкнецца працаваць не толькі з тымі грамадзянамі, якія выязджаюць у нашу краіну або ўязджаюць у Беларусь. Зразумела, усе функцыі, якія нададзены консульству ў аспекце абароны правоў грамадзян, мы выконваем своечасова. Але сёння мне хацелася б расказаць пра тыя кантакты з людзьмі Віцебшчыны, якія за гэтыя два з невялічкім гады дазволілі нам стаць шчырымі сябрамі...*

*Летась у дзень гадавіны адкрыцця нашага консульства на яго тэрыторыі сустрэліся два міністры замежных спраў — Латвіі і Беларусі. Афіцыйная сустрэча спадароў Біркаса і Сянько адбылася тут, бадай, не выпадкова, як невыпадкова консульства было адкрыта менавіта ў Віцебску. Паводле пэўных звестак большая частка насельніцтва Віцебшчыны так або інакш у сваім жыцці была звязана з Латвіяй: хто мае блізкіх і далёкіх родзічаў,хто калісьці вучыўся або працаваў у нашай дзяржаве... Тут, у Віцебску, пахавана маці нашага выдатнага пісьменніка Яна Райніса, і ў дзень любога свята мы кладзем на яе магілу кветкі.*

*Ужо двойчы мы правялі Дні культуры Латвіі ў Віцебску, адпаведна ў прыгранічным Рэзэкнэ і Даўгаўпілсе прымалі дзеячаў культуры Беларусі. Дарэчы, пасля заключэння дамовы паміж былымі краінамі СССР аб дружбе і супрацоўніцтве першымі прыступілі да яе практычнай рэалізацыі менавіта Рэзэкнэ і Віцебск.*

*Кожны год мы святкуем Дзень незалежнасці Латвіі ў будынку Віцебскай філармоніі. Самымі пачэснымі гасцямі ў гэты дзень з'яўляюцца віцябляне. Свята заўсёды праходзіць з канцэртамі латышскіх артыстаў, якіх вельмі шчыра і гасцінна сустракае віцебскі глядач. Гэтаксама, дарэчы, як і латышы на сваёй тэрыторыі заўсёды па-сяброўску радасна прымаюць братоў-беларусаў.*

*Памятаю леташнія красавіцкія Дні культуры Віцебска ў Латгаліі. Тады ў склад беларускай дэлегацыі ўвайшлі больш за сто вашых майстроў культуры і мастацтва! Акцыя буйнога маштабу! Але дасюль успамінаюць і мастакі і кампазітары гэтае свята як нейкую мару, маўляў, такога яшчэ не было! А ці можна забыць сустрэчу ў будынку Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа? Тэатр стаіць на беразе Дзвіны, па-нашаму — Даўгавы. Калісьці на яго адкрыцці прысутнічаў Ян Райніс. Прайшло сем дзесяцігоддзяў, але суплёт непарыўных кантактаў паміж нашымі народамі мацнее. Да юбілею коласаўцаў трупа Даўгаўпілскага драматычнага тэатра рыхтавала свой спектакль. Але ў выніку нарадзілася прадстаўленне "Сем прастадушных у гасцях у Несцеркі" — сумесная п'еса-імправізацыя ў райнісаўскім стылі. Адметна тое, што Даўгаўпілс і Віцебск у сэнсе культурных стасункаў працуюць цяпер самастойна, без дапамогі консульства. Мы, як кажуць, далі штуршок гэтым кантактам...*

*Хоць не адна ў нас тэрыторыя, але паветра — адно, як і рачныя хвалі без межаў амываюць берагі дзвюх дзяржаў. Была калісьці сумесная экалагічная праграма "Дзвіна — Даўгава" — акцыя Расіі, Беларусі і Латвіі. І цяпер яна адрадзілася. Тут, у Віцебску, адкрылася буйная канферэнцыя па гэтых актуальных праблемах, у якой бралі ўдзел латышы, беларусы і расіяне.*

*Што яшчэ адбылося ў Віцебску з удзелам нашага консульства? Літаральна напярэдадні адкрыцця летняга сезона адпачынкаў быў наладжаны турыстычны кірмаш, дзе вялікая дэлегацыя латвійскіх бізнесменаў прадстаўляла сённяшні рынак турызму нашай дзяржавы.*

*Але бадай самы галоўны набытак консульства ў сэнсе культурных кантактаў — гэта Нядзельная латышская школка ў Віцебску, якая адчыніла свае дзверы 16 кастрычніка 1994 года. У школе вучацца семнаццаць чалавек; праграму навучання дапамагае нам распрацоўваць Даўгаўпілскі педагагічны універсітэт, які, дарэчы, плённа ўдзельнічае ў экалагічнай доўгатэрміновай акцыі "Даўгава — Дзвіна". Трэба сказаць, што інтарэс да школкі расце і людзі шукаюць магчымасць, каб у ёй вывучаць латышскую мову. Дарэчы, падобных школак у свеце толькі дзве: у Маскве — пры пасольстве і ў Віцебску пры консульстве Латвійскай Рэспублікі. Дырэктарка нашай школкі — Вікторыя Шпак, супрацоўніца консульства. Яна — беларуска, якая атрымала калісьці адукацыю ў Латвіі, дасканала ведае мову, а цяпер, пераехаўшы на радзіму, навучае і дзяцей Віцебска.*

*Летась у Віцебску было створана Таварыства латышоў. Але менталітэт латышоў вельмі цяжка дазваляе ім збірацца разам. І што сімвалічна: адзін з вучняў нядзельнай школы, які за два гады навучыўся амаль вольна размаўляць па-латышску, стаў адным з ініцыятараў стварэння латышскага Клуба моладзі. Сёння перад намі паўстала і такая праблема: дарослыя таксама хочуць авалодаць мовай іх дзядоў і бацькоў. А патомкаў латышоў, якіх ніколі не навучалі роднай мове, на тэрыторыі Віцебшчыны шмат. Але дарослым спасцігнуць мову, не грунтуючыся нават на яе азах, вельмі няпроста...*

*Учора, 5 жніўня, консульства пераехала ў новы будынак па вуліцы Багдана Хмяльніцкага, 27-а, і першае, пра што будзём думаць, дык як лепш абсталяваць клас для Нядзельнай школы. Гэта справа — святая для нас!*

*І яшчэ адметны факт. У Даўгаўпілсе пры таварыстве "Уздым" літаральна пасля адкрыцця нашай школы адчыніла дзверы Нядзельная беларускаяшкола, якая таксама плённа працуе. І мы цяпер збіраемся з вучнямі нашай школы паехаць у госці да беларускіх дзяцей, якія жывуць у Латвіі. Так што кантакты прыносяць свой несумненны набытак у развіцці культуры абедзвюх краін.*

*Я, вядома, расказаў толькі пра частку культурных акцый, якія консульства наладжвае разам з віцяблянамі. Думаю, што стасункаў з кожным годам будзе ўсё больш.*

# ЛАТЫШЫ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

На тэрыторыі сучаснай Віцебскай вобласці жылі плямёны лотва і латыгола. Пра гэта сведчаць шматлікія тапонімы тыпу Латыгава, Латыголічы, Латыголь, Латышы, Лотва, Латоўка, Лотаў, Лотвічы, Лацвяны і іншыя. Балцкімі па паходжанні з'яўляюцца таксама тапонімы Обаль, Трэйчына, Відзы, Докшыцы і нават Полацк, гідронімы Лосвіда, Атолава, Асвея, Ула, Усыса. У цэлым арэал латыгольскіх тапонімаў супадае з вобласцю Днепра-Дзвінскай археалагічнай культуры балтаў. Балцкія плямёны адыгралі значную ролю ў этнагенезе беларусаў, але былі пры гэтым асіміляваныя. Як і ўсе балтыйскія назвы, назва "латыгола" з цягам часу перасунулася на захад і замацавалася за ўсходняй часткай Латвіі — Латгаліяй.

Таму, з вядомай доляю ўмоўнасці латышоў, якія жывуць сёння на Віцебшчыне, можна лічыць не эмігрантамі, але карэннымі жыхарамі, што жывуць на сваёй аўтахтоннай тэрыторыі. З вядомай доляю ўмоўнасці, бо старажытныя лотва і латыгола не з'яўляюцца сучаснымі латышамі, а фармаванне нацыі адбываецца ў XIX стагоддзі. Да гэтага часу беларусы прайшлі доўгі гістарычны шлях Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, Рэчы Паспалітай. Латышы за гэты ж час перажылі нашэсці наўгародскіх і пскоўскіх князёў, крыжакоў, якія заснавалі Лівонскі ордэн, агрэсіі суседняй Рэчы Паспалітай. У XIX стагоддзі, саслабленыя шматвекавой барацьбой, абодва народы апынуліся ў складзе Расійскай імперыі.

Перасяленне латышоў на ўсходнія і паўночна-ўсходнія беларускія землі пачалося ў XVIII стагоддзі. Найбольш інтэнсіўна гэты працэс адбываўся ў 1860 — 80-я гады: у 1870 годзе на Беларусі было 800 — 900 латышскіх перасяленцаў. У Віцебскай губерні ў 1877-83 гадах латышы склалі 51,5 працэнта ўсіх перасяленцаў. Перасяленню таксама спрыяла адкрыццё ў 1866 годзе Рыжска-Арлоўскай лініі імператарскай чыгункі, якая праходзіла па ўсёй Віцебшчыне.

Паводле меркавання Семянтоўскага — краязнаўцы, які жыў у Полацкім павеце ў XIX стагоддзі, — латышоў у Віцебскай губерні ў 1870 годзе налічвалася 176149 чалавек абодвух полаў, пры гэтым значная частка латышскага насельніцтва была засяроджана ў Латгаліі, частка якой уваходзіла ў склад Віцебскай губерні (Дынабургскі, Рэжыцкі і Люцынскі паветы). З агульнай колькасці латышоў 90,6 працэнта альбо 159591 былі каталікамі, 7,7 працэнта альбо 13563 — лютэранамі, 1 працэнт альбо 1762 — праваслаўнымі і 0,7 — старавeрамі.

Віцебскія латышы мала чым адрозніваліся ад прыбалтыйскіх, аднак яны ў значнай ступені былі каланізаваныя; некаторы ўплыў аказваў беларускі асяродак. Развіваючы рэлігійнасць, духавенства прывучала насельніцтва да пісьменнасці. Даследчыкі таго часу адзначаюць, што сярод латышоў, як мужчын, так і жанчын, амаль не было непісьменных. Цэнтрам латышскай культуры была Латгалія, дзе выдаваліся газеты і часопісы на латышскай мове, дзейнічалі навуковыя, культурна-асветніцкія таварыствы.

У шматтомным зборніку "Расія", выдадзеным у другой палове XIX стагоддзя, віцебскія латышы апісваюцца наступным чынам: "сярэдняга росту, мае русыя валасы, светлыя вочы і нярэдка вельмі правільныя і даволі тонкія рысы твару. Пры першым знаёмстве латыш здаецца некалькі недаверлівым; але варта пазнаёміцца з ім бліжэй, каб спазнаць ягоныя вельмі сімпатычныя племянныя рысы. Латыш вызначаецца гасціннасцю, лагодным стаўленнем да людзей і маральнай чысцінёю... Латышы лічацца здольным народам, хаця і мала прадпрымальным"...

Да 1860-х гадоў вонкавыя абставіны жыцця віцебскіх латышоў змяніліся. Курная хата, такая характэрная для латышоў, замянялася на хату рускага кшталту пад уплывам суседніх раскольнікаў. Сярод віцебскіх латышоў паступова знікла і старажытнае нацыянальнае адзенне: яго замяніла світка, падобная да беларускай. У ежы захаваліся старажытныя звычкі. Улюбёным напоем заставалася піва самаробнага прыгатавання. Улюбёнай стравою была "путра", якая ўяўляла сабою сумесь малака, бульбы, сыру, іншы раз з рыбай. Захоўваліся традыцыйныя святы. У віцебскіх латышоў дзень святога Юр'я быў вядомы пад назвай Юсенеў дзень. Беларускаму Купалю адлавядаў Янаў дзень.

Ад астатніх губерній Віцебская адрознівалася тым, што адразу пасля адмены прыгоннага права многія мясцовыя землеўладальнікі пачалі прадаваць сваю зямлю. Не разлічваючы на расійскіх і беларускіх купцоў, віцьбічы давалі аб'явы ў рыжскія газеты.

Існуюць дзве версіі з'яўлення латышоў на віцебскай зямлі. Першая — гэта набыццё нейкім курляндскім магнатам зямлі ў межах Усвяцкага маёнтка (раён сённяшняй вёскі Пудоты Суражскага раёна), які запрасіў на пасады ляснікоў некалькі латышскіх сем'яў. Паводле другой версіі, латышы былі запрошаны графам Шувалавым, які потым прадаў Усвяцкі маёнтак памешчыку Радзянку.

Так ці інакш, але латышы тут усталяваліся і ў лістах на Радзіму запрашалі землякоў прыязджаць гаспадарыць. Першым перасяленцам было абяцана вызваліць моладзь прызыўнога ўзросту ад вайсковай службы, што прывяло ва Усвяцкі маёнтак у 1886 годзе каля шасцідзесяці латышскіх сем'яў. З арандатараў, якія бралі 40 і больш дзесяцін зямлі, землеўладальнік не браў першыя шэсць гадоў платы за зямлю і аказваў дапамогу ў будаўніцтве вялікага жылога дома. Хто браў меней, страчваў гэтыя прывілеі. Захаваўся адзін з першых арэндных кантрактаў Усвят: "1887 года жніўня 5 дня, мы, тыя, хто падпісаўся ніжэй, давераны маёнтка Павел Карлаў Кнорэ і селянін Курляндскай губерні Талсінскага павета Эдуард Дрэер заключаюць кантракт. Эканомія маёнтка Усвят выдзяляе Эдуарду Дрэеру каля межаў вёскі Жэрасперы кавалак лесу пад назвай Гараватка ў адной кругавой мяжы. Арандатар на свае сродкі абавязаны пабудаваць жылы дом з адной рускай печчу і дахам, пакрытым драніцамі". Першыя шэсць гадоў перасяленец вызваляўся ад арэнднай платы, але быў абавязаны пабудаваць сушыльню з цаглянай печчу і токам пад адным дахам, клець і два хлявы, пуню для захоўвання сена і жыта, а таксама абнесці сядзібу плотам. Увесь лес і цэглу арандатар атрымоўваў бясплатна. За другі тэрмін арэндная плата складала ў цэлым 583 рублі.

Іншы маёнтак — Лашнёва, які належаў памешчыку Шпырко, быў набыты латышскімі сялянамі ў 1885 годзе за 20 тысяч рублёў. Увесь маёнтак — 585 дзесяцін зямлі, у асноўным лясы, — падзялілі па 65 дзесяцін на кожную сям'ю. Дваццаць гадоў кожны працаваў на сваім хутары, потым хутаране вырашылі аб'ядначца ў таварыства сельскай гаспадаркі. Колькасць членаў таварыства не была пастаяннай: у 1910 годзе — 32 гаспадаркі, праз год — 45, на пачатку першай сусветнай вайны — усяго 20. Латышскія сяляне галоўнай сваёй задачай вызначылі развіццё сельскай гаспадаркі ў раёне. За свой кошт яны арганізоўвалі публічныя лекцыі, выпісвалі сельскагаспадарчую літаратуру і наладжвалі выставы і аўкцыёны. Пасля 1917 года гэта ж таварыства працягвала існаваць пад назвай "Арайс" ("Араты").

У 1870 годзе 24 латышскія сям'і за 12 тысяч рублёў набылі маёнтак Выдрэя ў 1360 дзесяцін, што за дваццаць кіламетраў ад Лашнёва. Пакупнікі з'явіліся пасля аб'явы аб продажу маёнтка ў рыжскіх газетах. Праз шэсць гадоў усе ўдзельнікі куплі падалі ў казённую палату калектыўную просьбу, у якой прасілі дазволу падзяліць маёнтак на хутары. Праз 25 гадоў з пачаткам сталыпінскай зямельнай рэформы выдрэйскія і лашнёўскія хутары былі аб'яўлены паказальным хутарскім раёнам, куды ўсім раілі ездзіць для пераймання вопыту.



Прынцыпы гаспадарання былі аднолькавыя для ўсіх латышскіх сялян. Газета "Сельский вестник" пісала: "Рускія парабкі не вельмі ахвотна найматіся да латышоў, бо не прызвычаіліся да такога хуткага тэмпу працы, які практыкаваў латышскі селянін. Падчас касьбы альбо жніва сам гаспадар паказвае прыклад, а парабак павінен ісці ўпоравень з ім. Большасць гэтага не вытрымлівала".

З пачаткам першай сусветнай вайны на Віцебшчыну абрынулася новая хваля латышскіх перасяленцаў, якія спадзяваліся знайсці на беларускай зямлі спакой і працу. Віцебск прымаў іх, як і шматлікіх рыжскіх рабочых, эвакуяваных сюды разам з шэрагам прадпрыемстваў Рыгі. У ціхім раней мяшчанскім Віцебску, які стаў цяпер прыфрантавым горадам, узнік латышскі раён на Маркаўшчыне. Неўзабаве тут пачаў дзейнічаць латышскі клуб, якому было наканавана адыграць немалую ролю ў вядомых падзеях 1917 года.

У раёнах кампактнага пражывання латышскага насельніцтва дзейнічалі нацыянальныя латышскія сельсаветы (у Быхаўскім, Глускім, Клімавіцкім, Лёзненскім і Ушацкім раёнах). У Лёзненскім раёне быў утвораны Унаўскі латышскі сельсавет, які займаўся гаспадарчымі, жыллёвымі пытаннямі, а таксама пытаннямі асветы. На тэрыторыі Унаўскага сельсавета ў вёсцы Уна пры калгасе "Бязбожнік" працавала Усебеларуская латышская трохгадовая школа вясковай моладзі, дзе навучаліся 22 вучні ад 13 да 18 гадоў. У школе выкладалі тры настаўнікі. Са справаздачы дырэктара латышскай школы Біркана ад 15 верасня 1928 года: "Арэнда школы на год каштуе 160 рублёў. Ацяпленне школа атрымлівае за ўласныя сродкі. З раёна атрыманы неабходныя прылады. Школа пачала працаваць без дастатковай колькасці вучэбных дапаможнікаў. Адчуваецца недахоп падручнікаў, плакатаў і карт на латышскай мове". Акрамя гэтага, тут працавала аднакамплектная латышская школа агульнай плошчай 48 кв. метраў, дзе навучалася 26 чалавек ад 8 да 13 гадоў.

У вёсцы Матушава Сутокскага сельсавета пры сельскагаспадарчай камуне "Інтэрнацыянал" на бюджэце сельсавета працавала латышская школа плошчай 48 кв. метраў, дзе навучаліся 18 чалавек. Навучанне праходзіла на латышскай, беларускай і рускай мовах. Узрост вучняў — 8-9 гадоў. У вёсцы Барсеева пры калгасе "Чырвоны араты" таксама працавала латышская аднакамплектная пачатковая школа, а пры ёй — цяслярныя майстэрні і зямельны надзел у паўтара гектара. Тут навучаліся 18 дзяцей.

У вёсцы Чарніца пры калгасе "Адказ ворагам" працавала чатырохгадовая латышская Савецкая Працоўная школа першай ступені (21 вучань), якая займала канфіскаванае пры раскулачванні памяшканне. Выкладанне вялося на латышскай і беларускай мовах.

Дарэчы, у гэты ж час у вёсцы Горбава вырашалася пытанне аб арганізацыі нацыянальнага эстонскага сельсавета. Тут дзейнічала эстонская школа з выкладаннем на эстонскай і рускай мовах (55 вучняў ад 8 да 12 гадоў). У вёсцы Барсеева гэтага ж сельсавета працавала чатырохгадовая літоўская пачатковая школа (22 чалавекі), дзе беларуская і руская мовы вывучаліся толькі як прадметы. У вёсцы Стар знаходзілася трохгадовая аднакамплектная польская школа (28 чалавек), у вёсцы Дабрамысль пры калгасе "Полымя" — аднакамплектная габрэйская школа (16 чалавек).

Жыццём латышоў Беларусі і, у прыватнасці, Віцебскай вобласці, цікавіўся народны паэт Латвіі Ян Райніс. Ён быў абаронцам беларусаў у Латвіі. Пры ягонай дапамозе ў Рызе, Даўгаўпілсе, Лудзе былі заснаваны беларускія гімназіі. Ён быў знаўцам латышскай і беларускай этнаграфіі. Ягоныя фальклорныя даследаванні былі настолькі сур'ёзныя, што ён напісаў навуковую працу "Вясельныя абрады Вышкаўскай воласці", прысвечаную абрадам латышоў, а таксама беларусаў і рускіх Віцебскай вобласці. У 1926 годзе Райніс прысутнічаў на ўрачыстым адкрыцці Другога Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Віцебску. Тут жа ў Віцебску пахавана ягоная маці Дарта Плікшане. Напрыканцы XIX стагоддзя царская жандармерыя ў Латвіі знішчае рэвалюцыйны рух "Новая плынь", ідэйнымі кіраўнікамі якога былі Петэрыс Стучка і Ян Райніс. Райніса арыштоўваюць, кідаюць у турму. Затым зняволенне замяняюць ссылкай, і ён разам з жонкай, паэткай Аспазіяй, трапляе ў Пскоў. Сястра паэта Дора была замужам за Петэрысам Стучкам і жыла ў Віцебску, дзе яе муж чакаў прысуду за ўдзел у рэвалюцыйнай агітацыі. У гэты час маці Райніса знаходзілся ў Доры ў Віцебску. 31 сакавіка 1899 года Райніса і Стучку разам з іншымі "новаплынцамі як "палітычных злачынцаў" прысуджаюць да высялення ў Вяцкую губерню. У гэтым жа 1899 годзе, пражыўшы ў Віцебску толькі адзін год, маці Райніса памірае. Пахавана яна на лютэранскіх Стара-Сямёнаўскіх могілках.

Напрыканцы 20-х гадоў латышскія сяляне, якія аднымі з першых стварылі як камуны, так і калгасы, пацярпелі ад сталінскіх рэпрэсій, што закранулі ў 30-я гады ледзь не кожную латышскую сям'ю. Паводле падлікаў акадэміка Друзулса, ад тэрору ў СССР пацярпелі больш за 70 тысяч латышоў — лепшая, найбольш адукаваная частка народа. Сталінская дыктатура асабліва жорстка абыходзілася з прадстаўнікамі тых нацыянальных меншасцяў, якія мелі свае самастойныя дзяржаўныя адзінкі — з латышамі, літоўцамі, палякамі і іншымі.

Таму ў 30 — 40-я гады колькасць латышоў на Беларусі значна паменела. Падчас другой сусветнай вайны акупацыйныя нямецкія ўлады заахвочвалі перасяленне латышоў на гістарычную радзіму, хаця частка іх пазней вярнулася на Віцебшчыну. Пасля другой сусветнай вайны працягвалася як міграцыя латышоў з БССР у Латвійскую ССР, так і пастаянная перасяленне пэўнай колькасці латышоў з Латвійскай ССР у БССР.

Пачынаючы з канца 50-х гадоў колькасць латышоў у БССР была стабільнай. Ва ўмовах пераважнага карыстання ў побыце беларускай і рускай мовамі латышская мова захоўваецца, у асноўным, як рэпрэзентатыўная, гэта значыць, яе выкарыстанне абумоўліваецца сітуацыяй. Пра якую-небудзь культурніцкую дзейнасць у гэты перыяд казаць не даводзіцца, бо афіцыйным курсам унутранай палітыкі СССР было зліццё нацыянальнасцяў, канстатацыя новай гістарычнай супольнасці — савецкага народа.

З пачаткам перабудовы, з развіццём працэсаў дэмакратызацыі, галоснасці, утварэннем новых незалежных дзяржаў назіраецца ўзрастанне нацыянальнай самасвядомасці ўсіх народаў, і латышоў у прыватнасці. 4 траўня 1991 года была аднаўлена незалежнасць Латвійскай Рэспублікі, а неўзабаве — і Рэспублікі Беларусь.

9 верасня 1995 года адбыўся арганізацыйны сход Саюза латышоў Віцебскай вобласці "Daugava". Сімвалам Саюза з'яўляецца auseklis — традыцыйны элемент латышскага і, часткова, беларускага арнаментаў, што адлюстроўвае сённяшняе становішча беларускіх латышоў і даўнія сувязі двух народаў.

**Уладзімір СЛАБІН,**
**выкладчык Віцебскага дзяржаўнага універсітэта,**
**Вікторыя ШПАК,**
**дырэктар нядзельнай латышскай школы.**

*На здымку: святкаванне Раства ў нядзельнай латышскай школе.*

## БЕЗ СВЕЦКІХ УМОЎНАСЦЕЙ...

# НЕ ЗМЯНЯЮЧЫ НІЧОГА Ў СВЕЦЕ, ЗМЯНІЦЬ СЯБЕ

У Мінску прайшла генеральная рэпетыцыя праекта Тэатра моды Сашы Варламава "Бенефіс Эгаістаў", на якую былі запрошаны прадстаўнікі прэсы. Многія з манекеншчыц выступалі перад публікай упершыню, і таму можна зразумець тую ступень адказнасці і хвалявання, якая перапала на ўдзельнікаў выступлення. Рэпетыцыя ішла з каментарамі рэжысёра, прадстаўленнем сяброў тэатра. Эгаізм — у разуменні галоўнага рэжысёра Берлінскага тэатра моды Сашы Варламава — цудоўная якасць, магчымасць сцвердзіць сябе як творцу, вырвацца з натоўпу, рамак "нармальных" поглядаў, здольнасць, не змяняючы нічога ў свеце, змяніць сябе.

Сярод сяброў тэатра, дзякуючы чыёй дапамозе праграма стала магчымай, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскае гарадское ўпраўленне культуры, міжнародны часопіс "Еўрастыль", фірма па шыццю сучаснага адзення "Андарак", фірма "Эленка", якая пастаўляе і прадае бялізну нямецкай фірмы "Трыумф", фірма "Італмода", "Дыямент"... Кошт квіткоў мяркуецца зрабіць вельмі танным і ўсім даступным. Таму выдаткі павінны акупіцца толькі праз 3 — 4 гады.

Музыку і аранжыроўку да праграмы піша вядомы кампазітар Сяргей Хвашчынскі, тэатр мае сваю салістку — Нікіту (Ірына Нікітчык), Шоу-балет. Вялікая частка канцэртнай праграмы трымаецца на танцоры Аляксандры Савіцкім. Яны дазваляюць перавесці ў рух і прастору матэрыял, які прадстаўляюць манекеншчыцы і мадэлі.

Прадэманстраваны журналістам праект быў сінтэзам музыкі, колеру, пластыкі. Паяднаныя ў агульнае цэлае модулі са сцэнак, танцавальных і музычных нумароў, якія раскрываюць розныя аспекты духоўнага і сацыяльнага быцця асобы, утвараюць унікальны дызайнерскі праект, які, нягледзячы на ўсе матэрыяльныя цяжкасці, робіцца адной з галоўных падзей культурнага жыцця краіны 96-га года.

**Алесь ТУРОВІЧ**

# СКУРАНЫЯ ШТАНЫ ЯК МОМАНТ СПАСЦІЖЭННЯ ІСЦІНЫ,
## АБО ЧАМУ САША ВАРЛАМАЎ АДМАЎЛЯЕ "ДЭФІЛЕ"

**— Аднак жа, Саша, мусіць, вы самы незаканспіраваны эгаіст у нашай дзяржаве...**

— Я — "эго!" Я — ёсць! Гэта тое, што мы, на жаль, вельмі кепска ўспрымаем. Я ж лічу, калі ёсць Асоба, то гэта —выдатна. "Эго" дазваляе нам дамагацца чагосьці ў жыцці. "Эго" — гэта стваральнік, без яго не будзе ні ерша, ні спектакля ў тым жа Тэатры моды Сашы Варламава. Чаму я назваў прэм'еру "Бенефіс эгаістаў"? Бо кожны чалавек — эгаіст. Мы жывём для сябе, мы апранаемся, у першую чаргу, для сябе, мы ўсё робім для сябе. Але ж часам станоўчы фактар ад твайго здаровага эгаізму спажываюць людзі, якія вакол цябе. Тым больш, ад "эго" творчага... Дык што можа быць лепш, любімей за самога сябе? Ці ж не самалюбства гэта — марыць, каб пасля смерці пра цябе гаварылі, што ты БЫЎ на гэтым свеце? Ці ж не самая вышэйшая праява эгаізму — стварэнне "помніка нерукатворнага"? Словам, як толькі мы пачынаем любіць сябе, ставіцца да сябе як да Асобы, а не як да пясчынкі ў пустэчы, адразу надыходзіць час шчасця. Для самога сябе... Складаная філасофія? Так, нязвыклая, нічога агульнага з тымі "дэфіле", да якіх нас прывучыла партыя.

**— Прабачце, у якім сэнсе "дэфіле"?**

— Гэта калі прыйшоў і пайшоў, прыйшоў і пайшоў. І ўсё. Калі манекеншчыца — нібы прадстаўнік натоўпу. У мяне ж мадэль — як прадстаўнік мастацтва, як вобраз, як сіла. Спектакль "Бенефіс эгаістаў" у інтэрпрэтацыі творцаў-эгаістаў, акрамя Мінска, пабачаць у маленькіх гарадах з невялікімі сцэнічнымі пляцоўкамі, а з верасня мяркуем наладзіць гастролі ў буйнейшых. І ў снежні — Мінск, гэта значыць — кола замыкаецца.

**— А як увогуле да Тэатра моды ставіцца глыбокая правінцыя?**

— Ведаеце, мне неаднойчы гаварылі там: за апошняе дзесяцігоддзе, мусіць, вы першыя, хто да нас прыехаў. У сэнсе культуры мы нікому не патрэбныя. Хіба "круцяць" толькі індыйскія фільмы, там-сям прадаюць відэакасеты, а на рынку — тавары з Кітая і Турцыі. У сэнсе канцэртаў, шоу-відовішчаў — нічога. У Жлобіне наогул нам сказалі: мы цяпер адпускаем вас, але дайце слова, што вернецеся. Там, у глыбінцы, вельмі ўдзячны народ...

**— Вы, здаецца, нядаўна вярнуліся з Германіі.Ды і праграмка "Бенефісу эгаістаў" прадстаўляе Вас як галоўнага рэжысёра Берлінскага тэатра Моды, ну а потым ужо, праз коску, "вядучага стыліста Рэспублікі Беларусь..." Дык з кім Вы, Саша?**

— З Берліна, шчыра скажу, мяне не хацелі адпускаць. Дарэчы, я там кінуў паліць, а паліў па паўтара пачка цыгарэт на дзень. Чаму кінуў там? Думаю: надта цяжка, запалю. Але дастану цыгарэту — лягчэй стане? Не. Праблемы знікнуць? Не. Не расказвай, Саша, сам сабе казкі, лепш ведаць праўду... Да чаго я гэта? А да вашага пытання — з кім я. Больш за год таму мяне запрасілі ў Берлінскі тэатр Моды на прагляд.І зацвердзілі, хоць у немцаў быў вялікі выбар, бо прыязджалі туды многія. Пашчасціла мне.

**— Зразумела, што пашчасціла. Відаць, праца ў такім тэатры дае многае?**

— Імідж рэжысёра еўрапейскага тэатра там, безумоўна, дае нямала. Гэта значыць, пра цябе піша прэса, здымаюць тэлеперадачы. А калі пра цябе гавораць, значыць, ты падвышаеш свой рэйтынг, адпаведна, і зарплату. Імя дае заробак. І там найтмаліся ў тэатр людзі, якія ўвогуле першым часам былі гатовыя працаваць бясплатна. Нават, памятаю, рэжысёры з Брадвейскіх тэатраў прапаноўвалі сябе, пастаноўшчыкі былі з самых розных краін...

**— Дык усё ж, Вы зразумелі, чаму выйграў Саша Варламаў?**

— Гэта — дасюль загадка. Я прыехаў і мне сказалі так: "Трэба забыць усё, што ты ўмееш рабіць. Пачынай працаваць зусім інакш". Бо немцы — гэта народ, які любіць працаваць, але хоча, каб пасля працы яму стварылі адпачынак. Значыць, трэба зняць напружанне хоць чым — стрэсам, шокам, узяць яго ў свае рукі і размаўляць з ім так, каб ён смяяўся, радаваўся, апладзіраваў. Я першы раз пачаў ставіць спектакль — не атрымліваецца. Думаю, ну ўсё, больш не запросяць. І раптам апладысменты за апладысментамі.А прадстаўленне праходзіла ў сенаце. Сяджу і не разумею, што адбываецца:мяне выводзяць на сцэну, дораць кветкі, бяруць на нямецкай мове інтэрв'ю... Я — у шоку! Потым прааналізаваў, чаму такая рэакцыя. Перш за ўсё, я зразумеў патрэбы людзей. Жывучы на Беларусі, мне цяжка было зразумець, што такое чалавек з іншым позіркам на культуру бо па радыё я ўсё жыццё чуў фальклорныя песні, па тэлебачанні пастаянна глядзеў фальклорныя танцы. Так — цудоўна! Але я не апрацоўваю зямлю, не трымаю кароў.Гэта не маё жыццё. І ў мяне ў культуры патрэбы — не земляробчыя. І вось я зразумеў, што ёсць іншая культура, вельмі моцная, што Беларусь вельмі маленькая ў параўнанні са светам. Так, раней я глядзеў на свет з пункту гледжання Беларусі. Так — яна была для мяне вялізнай! Тым больш, што сем гадоў я ездзіў па краіне і збіраў матэрыял, у мяне нават быў свой музей беларускага ўжытковага мастацтва...

**— А дзе ён быў?**

— У Інстытуце культуры, дзе я працаваў кіраўніком навукова-даследчай лабараторыі па беларускай танцавальнай творчасці. Словам, усе вёскі Беларусі праехаў...

**— Дык Вы ўсё ж былі пэўным чынам прывязаны да зямлі?**

— Я лічу сябе чалавекам свабодным ад прафесіі. Рэжысёр- харэограф — не прывязаны да зямлі. Мне трэба іншае, у мяне запатрабаванні — у іншым. Цяжка, вядома, было прывыкаць да іншага падыходу да жыцця. Мне немцы казалі: мяняйся, у цябе ёсць усё, каб стаць нармальным рэжысёрам. Адна з фраз, якой яны канчаткова мяне дабілі : мы чулі, што на Беларусі ў верасні-кастрычніку зачыняюцца ўсе фірмы і ўсе ад'язджаюць на палі выбіраць бульбу. Ты павінен зразумець: тут нікога сельскагаспадарчая праблема не хвалюе, ніхто не ведае, дзе бульба расце. Яна ёсць — і ўсё! Мы не збіраемся зачыняць фірмы, каб бульбу ратаваць. Інакш у нас не будзе нічога.Запомні: ты — рэжысёр,чалавек, які ўплывае на розум.Адыходзь ад узроўню земляроба. Забудзься на тое, што ты ім быў.

**— Не разумею...**

— Тэатр Моды калісьці выязджаў на праполку капусты. Уяўляеце, манекеншчыцы, стоячы на карачках,выдзіралі пустазелле, а ўвечары ў тэатры давалі спектакль! Гэта жах, але гэта было ў 89-м годзе! Як з той бабкай, якая ў 70 гадоў адкрыла ў сабе мастачку і якую па тэлебачанні ўвесь час паказвалі. Ах-ах, бабка зрабіла нейкія, ледзь не дзіцячыя малюнкі, ой, новы погляд на свет... Гэта глупства! Кожны павінен займацца прафесіяй. "Фанацець" ад аматарства — нельга. Але каб цэнтральнае тэлебачанне ў захапленні крычала, што ў бабкінай рыбкі вочы на хвасце... Дык гэта з-за таго, што яна пэндзаль у руках трымаць не можа. Калі ласка, развешвай свае творы ў сябе ў хаце, ствараі гурток аматараў сваёй творчасці, але не прымушай мільёны тэлегледачоў спажываць прымітыў.

**— Але ж Пірасмані...**

— Там ёсць тэхніка, а значыць, прафесіяналізм. Я заўсёды прыводжу прыклад: ці можна напісаць раман "Вайна і мір", не ўмеючы пісаць наогул? Не! Спачатку людзі вучацца пісаць: "Мама мыла раму...", а потым... Так я змяніўся ў сваім светаадчуванні... Цікавы выпадак. Калі элегантны мужчына ў элегантным пінжаку і пры гальштуку пачынае элегантным голасам штосьці гаварыць са сцэны — гэта нармальна?

**— Так, безумоўна...**

— Дык вось, было гэта паўгода таму ў Берліне, калі я такі элегантны выйшаў на сцэну і мне дарылі кветкі. Мяне пасля гэтага паклікаў тэлевізійны рэжысёр і запытаў: "Ты што, прыехаў з партыйнага з'езду?" Я сумеўся, маўляў, ніколі не бываў на партыйных з'ездах... "А чаму ты апрануты, як партыйны дзеяч?" Вось я і памяняў свой касцюм на гэты. Думаю, што ў ім я зусім не падобны на партыйнага дзеяча...

**— Гэтак апранацца — актуальна?**

— Актуальна насіць дзве кашулі, кантрастныя, аднатонныя. Я пачаў насіць дзве кашулі, Тэатр Моды ў Берліне прэзентаваў мне скураныя штаны, і я цяпер у Мінску хаджу ў іх, куды б ні наважваўся. Я нікога не баюся, бо адчуў сябе асобай, адчуў сябе рэжысёрам нарэшце. І гэта вялікае шчасце — не быць як усе, разумець, што твой лёс залежыць не ад суседкі цёткі Валі, якая можа табе не пазычыць солі, і не ад дзядзькі Мішы, які асудзіць твае скураныя штаны, а ад свайго ўласнага стаўлення да жыцця... Цяпер, калі я адчуваю сябе сёння шчаслівым, усяго астатняга дамагчыся мне дапамагае Бог. Так, можна хадзіць і пакутаваць: ах, дзе тое каханне, якое я сам сабе напрыдумваў, наглядзеўшыся ў шаснаццаць гадоў рамантычных фільмаў. Вось і асабіста да сарака гадоў хадзіў і шукаў гэтае каханне. Але ж потым падумаў: "Усе роўна не атрымаю, чаго хачу! Навошта глупствам займацца?" Трэба любіць тое, што ў цябе ёсць: свае рукі, свае ногі, тых, хто любіць цябе...

**— Саша, а Вы не збіраецеся наогул пакінуць Беларусь? Нейкія нюансы ў Вашай споведзі гавораць за тое...**

— Так, мне ў Берліне прапаноўваюць, маўляў, час вызначыцца. Я, канешне, не ведаю, што атрымаю тут у гэтым жыцці, таму не хачу пазбаўляць сябе магчымасці мець запаснае выйсце. Разумееце? Бо ніхто не ведае, што можа адбыцца заўтра, і перш за ўсё — са здароўем, па-другое — ну, зачыняць тэатр мой, цяпер ужо прыватны. Калісьці ж закрылі Тэатр Моды дзяржаўны, калі я захварэў... Так што — усяго можна чакаць. Але я стаўлю пытанне так: пакуль ёсць у Беларусі магчымасць працаваць, дык буду спалучаць адно і другое.

**— Вы і ў Берліне адбіраеце манекеншчыц на свой густ?**

— Не, мне там даюць трупу, бяры і працуй. Падабаецца —не падабаецца, а працуй. А вось тут — усе мае. Мае родныя... І я іх усіх вельмі люблю...

**— А дзе Вы шукалі сваіх артыстак?**

— Дзе толькі не вышукваў: і на вуліцах, і самі прыходзілі, і нейкія конкурсы абвяшчаў. Засталіся ўрэшце тыя, хто будзе са мной, каму можна даверыцца. Бо ніводны нармальны чалавек не вытрымае шалёную нагрузку, якую маюць мае манекеншчыцы ў Тэатры Моды. Ні ў водным агенцтве — ні Масквы, ні Беларусі, ні Еўропы — не працуюць так, як у мяне. Але не для таго, каб выйсці на сцэну і пакрасавацца, а перш-наперш — ствараць вобраз. Напрыклад, Марлен Дытрых. Я раблю пастаноўку з касцюмамі, рухамі, са спявачкай — і гэта спектакль.

**— Цікава, вось дзяўчаты да Вас прыходзяць, скажам, у 16 гадоў...**

— ... Пачынаючы з васьмі-дзевяці гадоў. У мяне цяпер ёсць манекеншчыца, якую я рыхтую, дык ёй 13 гадоў. Яна з мамай ходзіць на рэпетыцыі. Дык вось яна — будучая "зорка". Я даўно зразумеў: мне ніхто нічога не дасць: калі я хачу есці, дык павінен прыгатаваць ежу сам, калі хачу мець тэатр, дык я павінен сам яго зрабіць...

**— А кантынгент гэтых дзяўчат, якія хочуць стаць манекеншчыцамі?**

— Самы розны. Але, ведаеце, чым больш дзяўчына лічыць сябе выхаванай, разумнай, тым менш у яе шанцаў да мяне трапіць, бо яна ўжо — "совершенство". У сваіх уласных вачах. Таму да мяне трапляюць, як правіла, людзі, якія незадаволеныя сабой, якія хочуць сябе змяніць. І, ведаеце, рэдка прыходзяць дзеці з "благополучных" сем'яў, амаль такіх няма. А вось тыя, хто выпакутаваў нястачы, яны не задаволены сітуацыяй і хочуць жыць інакш.

**— Я гляджу на фотаздымак адной з Вашых манекеншчыц, гэтая дзяўчына вырашыла калісьці сябе перарабіць?**

— Гэта ж мая любіміца! У 13 гадоў я закахаўся ў Мішэль Мерс'е, "Анжэліку — маркізу анёлаў". Я хадзіў на ўсе фільмы, мой пакой быў завешаны яе фотаздымкамі. І калі я ўбачыў Наташу Пракопаву, падумаў: так, гэта Мішэль Мерс'е, тыя ж вочы, той жа твар. На жаль, бацька яе вельмі хворы, маці зарабляе мізэрныя грошы, і яна сама сваімі маленькімі, танюткімі рукамі будуе сваё жыццё. А прыйшла яна да мяне яшчэ падлеткам...

**— А Вы, Саша, з "благополучной" сям'і?**

— Тата ў мяне памёр, калі мне было 16 гадоў. Маці не стала пяць гадоў таму... Я б не сказаў, што выхоўваўся ў "благополучной" сям'і. Бацька не займаўся маім выхаваннем, скажу шчыра. Матуля ж была родам з адэскай дваранскай сям'і. Маёнтак "Варвараўка" належаў маім продкам па яе лініі. Тата — родам з Мінска: маці ягоная — беларуска-польская мяшчанка з гэтых мясцін,а бацька, дзед мой Георгій, з Арла; ён быў асабістым целаахоўнікам Мікалая II. Са службай развітаўся яшчэ да рэвалюцыі, і яму заўсёды даставалася ад тых і другіх — ад камуністаў за тое, што быў побач з царом, а ад астатніх за тое, што пайшоў з целаахоўнікаў. Дык вось, матуля мая гадавала траіх дзяцей на 80-90 рублёў, якія зарабляла. Нашым харчам былі хлеб, малако, бульба. Але атмасфера ў сям'і фарміравалася такая: кнігі — гэта каштоўнасць, музыка — гэта каштоўнасць, а насілле — зло. Маці скасавала з бацькам шлюб пасля таго, як зразумела, што ён пачынае рабіць насілле нада мной, як над Асобай. Ён не прымаў маё захапленне харэаграфіяй, лічыў, што я — няўдалае дзіця, бо не завінчваю недзе балты... Адно скажу: маці для мяне ўсё; па Фрэйдзе, я закаханы ў сваю матулю як у адзіную жанчыну ў свеце. І ўсе комплексы, якія існуюць у маім жыцці — з-за гэтага. Бо маці мяне "зрабіла" як асобу: яна навучыла мяне забіваць цвік у сцяну, будаваць, глядзець на свет вачыма чалавека добрага, які павінен ствараць сябе сам і дапамагаць рабіць гэта іншым. Словам, матуля — гэта мой любімы настаўнік і любімая жанчына...

**— Ну, а як Вы ставіцеся да рамантычнай закаханасці ў Вас, настаўніка, сваіх выхаванак? Відаць, існуюць такія прэцэдэнты?..**

— Калі і існуюць, што ж, яны павінны ведаць: шанцаў тут няма. З пункта гледжання нармальнага чалавека — гэта няшчыра і ненатуральна. Так што раю ім кахаць таго, хто ім патрэбны на самой справе.

**— Што ж, вернамся, Саша, да прозы таго ж самага жыцця. Якія праблемы існуюць сёння ў Тэатры моды?**

— Праблема — галоўная, над якой я б'юся: у тэатра няма пакуль яшчэ свайго памяшкання. А патрэбна нам толькі рэпетыцыйная зала. Дарэчы, дзіўная рэч адбылася. Відаць, яе я выпакутаваў і Бог зрабіў мне падарунак. Бог паслаў тых людзей, якія сёння мне дапамагаюць. Гэта, па-першае, бізнесмены, і сярод іх вельмі сур'ёзныя сябры, якія адчулі: так, яны ў бізнесе тое-сёе зрабілі, але ж трэба жыць далей, і жыць цікава. А што можа быць цікавей за тэатр! Дапамагаюць мне і з урадавых колаў, з адміністрацыі прэзідэнта, з мэрыі, з Міністэрства культуры. Словам, я нават і не ведаю чаму, але з'явілася шмат сяброў. Вось толькі памяшканне...

**— Ну, а сябры-бізнесмены?**

— А яны задаюць мне адно і тое пытанне: "Саша, а ты ўпэўнены, што праз паўгады, як мы табе дадзім памяшканне, у цябе яго не адымуць?" Рэзоннае пытанне? Я ніколі не займаўся палітыкай і не ведаю, як яна робіцца. Ды мне гэта ўсё роўна — як. Мая палітыка — мода і прыгажосць. Так, ёсць людзі, якія гатовыя даць мне памяшканне, таму цяпер я распрастаў крылы і мне хочацца менавіта на Беларусі зрабіць тое, дзеля чаго жыў і да чаго імкнуўся. У Берлін можна паехаць, але цікава мне тут. Ну, калі не атрымаецца, забяруць у мяне ўсё, тады і ў Берлін, мусіць, наважуся. А пакуль...

**— Скажыце, у Вас ёсць час на кнігі, жывапіс, музеі?**

— Я яго знаходжу. Ведаю нават, дзе ў Мастацкім музеі вісіць тая альбо іншая карціна. Увогуле, мне многае падабаецца. Калі займаешся модай, не хочацца гаварыць, што табе імпануе толькі чорнае альбо зялёнае.

**— Што не прымаеце ў жыцці?**

— Тыя праблемы, якія магу назваць, бадай, невырашальныя. І навошта пра іх тады гаварыць? Ва ўсім свеце існуюць супрацьборства, зайздрасць, і менавіта зайздрасць самая агідная якасць. Як правіла, зайздросцяць людзі бесталанныя, і калі яны маюць уплывовасць і ўладу, тады пачынаюцца праблемы.

**— Вы належыце да якой-небудзь тусоўкі?**

— Не, у мяне свой свет, сваё кола знаёмых і сяброў. І пра мяне нельга сказаць, што я належу да тусоўкі "Белнафтагаза", напрыклад, або да якой іншай.

**— А ці належыце Вы да якойсьці канфесіі?**

— Так, я праваслаўны і верую ў Бога. Кожную раніцу гляджу на абраз, гляджу ў вакно... Бог паўсюль — у кветцы і ў кроплі дажджу... Бог — мой сябра, а не вораг. І я яго не баюся. Я яго люблю. Увогуле я лічу, што граха ні ў якой праяве любові няма. Гэта прыдумалі хворыя людзі, што ён, грэх, ёсць. Усялякая любоў, любое каханне — блаславёны!

**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

